© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







# ЧАМУ МЫ НЕ РАЗМАЎЛЯЕМ ПА-БЕЛАРУСКУ?

**(Даследванне газеты "Экспресс - НОВОСТИ")**

## "...я адчуваю сябе беларусам"

**У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў вучыцца цікавы хлопец. Ён піша карціны, удзельнічае ў гурце «Рэха», паўсюль прынцыпова размаўляе толькі пабеларуску і... мае чорны колер скуры. Наш карэспандэнт сустрэўся з Андрэем ТАКІНДАНГАМ.**

***- Андрэй, на якой мове размаўляюць твае бацькі?***

- Мой бацька (які прыехаў з афрыканскай дзяржавы Чад) размаўляе па-французску і па-руску, а маці на беларускай мове.

***- Ты пачаў размаўляць на беларускай мове, таму што маці на ёй размаўляе?***

- Я не пачынаў размаўляць, я заўсёды размаўляю па-беларуску. Мая маці ўвесь час выкарыстоўвае выключна беларускую мову. Я чуў яе з нараджэння, я яе не вучыў. Мова даецца нам таксама, як і рукі альбо ногі. Ты памятаеш, як навучыўся хадзіць? Я не памятаю, як навучыўся размаўляць па-беларуску.

***- А мовамі бацькі - рускай і французскай - валодаеш?***

- Не, французскую мову я вучыў толькі ў школе. Я не ведаю яе на такім узроўні, каб карыстацца ў жыцці, каб камфортна адчуваць сябе у французскамоўным асяроддзі. Можа быць, з цягам часу я і ўдасканалю свае веды... А рускую мову я, канечне ж, ведаю добра.

***- Атрымліваецца што ты ведаеш дзве мовы: рускую і беларускую. Чаму ты вырашыў размаўляць пабеларуску ?***

- Мова - гэта сродак зносін паміж людзьмі. Чалавек размаўляе на той мове, на якой ён больш зручна і натуральна сябе адчувае. Ты выбіраеш тую мову, на якой табе лягчэй размаўляць, на якой ты думаеш.

***- Беларуская мова табе дапамагае? Напрыклад, у канфліктных сітуацыях з тымі ж самымі «скінамі»?***

- Ой шчыра кажучы, я ніколі аб гэтым не задумваўся... Ведаеш, мне проста рэдка даводзіцца сутыкацца са «скінамі». Я ўвогуле імкнуся пазбягаць канфліктных сітуацый.



***- А як людзі рэагуюць на беларускую мову ад цябе?***

У асноуным натуральна. Вось толькі ў людзей больш сталага ўзросту гэта выклікае нейкія пачуцці... замілавання ці што? Я бываю на вёсцы. Там таксама да мяне ўжо прызвычаіліся і адносяцца да мяне як да звычайнага беларуса. Мы ж усе беларусы, усе разумеем беларускую мову. Няхай людзі і не размаўляюць на ёй, але ж у школе вучылі. Мае знаёмыя часткова беларускамоўныя, часткова рускамоўныя, ёсць і тыя, хто ўжывае трасянку. І я магу сказаць, што ніякага культурнага шоку я не выклікаю.

***- Ты адчуваеш сябе беларусам?***

- Так, я адчуваю сябе беларусам. Тут жа ўся справа ў самасвядомасці. Усё залежыць, у першую чаргу, ад самога чалавека, кім ён сябе адчувае. Цяпер такі свет, што беларус - гэта не абавязкова той, у каго некалькі пакаленняў бацькоў былі адсюль. Цяпер настолькі шырокі свет, што ты сам выбіраеш сабе ўсё, што заўгодна, нават рэлігію.

***- Як ты лічыш, чаму беларусы не размаўляюць на роднай мове?***

- Ну мы ж вось з табой размаўляем па-беларуску. Калі ты маеш на ўвазе большасць, то тут, на маю думку, існуе шэраг гістарычных акалічнасцяў. Да таго ж, гэта проста звычка. Можна навучыць любога чалавека чаму заўгодна, а можна зрабіць так, каб чалавек забыў сваю мову, не карыстаўся ёю, размаўляў на іншай мове... Тут трэба казаць пра ўнутраны хрыбет нацыі. У нейкі час беларусам проста расхісталі адзін пазванок, і цяпер мы маем тое, што маем.

***- Ці ёсць нейкая перспектыва ў нашай мовы?***

- Я не магу адказваць за ўсю нацыю. Магу сказаць пра сябе, пра сваіх блізкіх, знаёмых, якія альбо размаўляюць, альбо не размаўляюць па-беларуску. Пакуль што я размаўляю на гэтай мове і буду на ёй размаўляць.

***- Я ведаю, ты займаешся музыкай...***

- Так. Наш музычны калектыў адносна малады. Але мы ўжо шмат выступаем па Беларусі. Вось нядаўна прайшоў канцэрт у Жыровічах. Пасля яго нам зрабілі выдатнейшую экскурсію па манастырскім комплексе, мы пазнаёміліся з класнымі праваслаўнымі манахамі. Было цікава і прыемна. Ездзім з выступамі ў Польшчу. Часта нас можна пабачыць на менскіх сцэнах. Запрашаю ўсіх зацікаўленых.

# БЕЛАРУСЬ БЫЛА ПАЛІГОНАМ ДЛЯ БАЛЬШАВІЦКІХ ЭКСПЕРЫМЕНТАЎ?

**Мы сустрэліся са старшынём ГА "Таварыства беларускай мовы" Алегам , ТРУСАВЫМ, каб высветліць, чаму ж беларусы не размаўляюць на сваёй роднай мове.**



***- Спадар Алег, чаму мы не размаўляем па-беларуску?***

- Распачнём з таго; што нацыя без горада існаваць не можа. Калі знішчаецца горад - знішчаецца нацыя. Невыпадкова ўсе рэвалюцыі адбываліся ў вялікіх гарадах. Дык вось, наш беларускі горад быў знішчаны яшчэ ў XVII стагоддзі падчас руска-польскам вайны. Гараджан альбо пазабівалі, альбо вывезлі ў Расію. А на месца беларусаў. пачалі засяляцца іншыя нацыянальнасці, у першую чаргу габрэі. А ім наша мова, наша культура была не патрэбная. Я не кажу, што яны былі варожыя да гэтага, проста абыякавыя. Да канца XIX стагоддзя беларускі горад фактычна стаў этнічна габрэйскім. Такая сітуацыя доўжылася да Вялікай Айчыннай. Другая хваля знішчэння беларускага горада адбылася ў XX стагоддзі. У 60 - 70 гады беларускія гарады былі ў асноўным заселены вяскоўцамі. А ў іх быў комплекс непаўнавартасці. Калі людзі пераязджаюць з вёскі ў горад, асабліва ў вялікі горад, яны страчваюць сваё мікраасяроддзе. Да таго ж, кожны з гэтых новых гараджан размаўляў на сваім дыялекце, яны не ведалі правільнай літаратурнай мовы, не мелі адукацыі. Кіравалі імі прыслалі рускамоўных людзей. У асноўным гэта былі; рускія, альбо, што яшчэ горш, рускамоўныя грузіны, габрэі ці ўкраінцы. Усё начальства размаўляла па-руску, яны ўвесь час казалі нашым вяскоўцам: «Говори по-нормальному, по-городскому. Ты - колхозник, деревня!». А мужчын яшчэ і войска савецкае калечыла, дзе ўсіх прымушалі размаўляць парускy. Гэтыя два фактары вельмі моцна выцялі па Беларусі. А потым, у 1959 годзе, быў прыняты новы Закон аб адукацыі. Ен дазваляў дзецям не вывучаць беларускую мову, калі бацькі гэтага не хочуць. Ну, а хто не хоча менш вучыцца?! Дзяржава пачала масава зачыняць Беларускія школы ў гарадах "па просьбе працоўных". Самая страшэнная сітуацыя склалася ў 70-я, калі нават беларускую літаратуру выкладалі парускy. І яшчэ, пасля рэпрэсій 30-х гадоў беларускамоўнай інтэлігенцыі амаль што не засталося. Тут яшчэ трэба адзначыць, што Беларусь была палігонам для бальшавіцкага эксперыменту па знішчэнні мовы. Пра гэта афіцыйна сказаў Хрушчоў, калі прыехаў у Менск і зняў Мазурава, які выступіў перад генсекам па-беларуску. Таму і яго наступнік Машэраў, нягледзячы на тое, што вельмі добрі ведаў мову, ніколі публічна не выступаў па-беларуску. Пасля таго Хрушчоў, выступаючы на ганку нашага універсітэта, сказаў, што беларусы будуць першымі жыць пры камунізме, калі адмовяцца ад сваём мовы. Беларусы былі абраныя бальшавікамі для эксперыменту па стварэнні новай супольнасці - савецкага народу. Потым, пасля нас; такія ж асімілятыўныя працэсы прымянялі да ўкраінцаў, да іншых нацыянальнасцяў Савецкага Саюза.

***- Якія перспектывы ў беларускай мовы ў бліжэйшы час?***

- Някепскія. Самае галоўнае, праводзіць акуратную моўную-палітыку. Думаю, нам трэба вярнуцца да рэдакцыі Канстытуцыі 1994 года, дзе было запісана, што беларуская мова - адзіная дзяржаўная, а руская мае асобны статус. Я планую распрацаваць вельмі падрабязны закон аб мовах. Распісаць статус розных моў: беларускай, рускай, англійскай, польскай і ідыш. Толькі ў нас ідыш была адной з дзяржаўных моваў. Трэба яе вывучаць, ствараць музей, кафедру. Існуе праблема з мовамі нашых суседзяў, няма слоўнікаў. Сітуацыя пачынае пакрыху выпраўляцца, хутка будзе распрацаваны літоўска-беларускі і беларуска-літоўскі слоўнік. Тое ж самае трэба зрабіць з украінскай і латышскай мовамі. Польскую мову трэба вывучаць на гістфаках і філфаках як адну з гістарычных моў Беларусі. Горш ад гэтага не стане. Вельмі асцярожна трэба сябе весці з англійскай мовай, яна пачынае сваю экспансію на Беларусь. Еўрапейскія краіны ўжо прынялі законы, якія абараняюць нацыянальную мову ад англійскай лексікі. Нядаўна да нас у ТБМ прыйшлі цыганы. Хочуць адкрыць у Менску сваю цыганскую школу, дзе іх дзеці добра вывучыді б беларускую мову. Яны ўжо распрацавалі цыганска-беларуска-рускі слоўнік, але пакуль што няма грошай, каб яго выдаць.

Яшчэ Максім Багдановіч распрацаваў формулу паскоранага развіцця беларусаў. Мы як спружына: яе доўга сціскаюць, а потым яна хутка распрамляецца. За XX стагоддзе было ажно тры адраджэнні «нашаніўскі» перыяд, савецкі і адраджэнне канца 80-х - пачатку 90-х гадоў. Я думаю, хутка пачнецца новая хваля беларускага адраджэння. Яна ўжо пачынаецца.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







Святлана Багданкевіч

# Як і з кім я размаўляю па-беларуску?

*Прыблізна два гады назад мы друкавалі шэраг інтэрвію ўзятых Святланай Багданкевіч у розных людзей па пытаннях іх адносін да беларускай мовы, карыстання мовай і інш. Сёння мы прапануем новыя інтэрвію з гэтай серыі.*

**Альгердас, бізнесовец зь Летувы.**

Мы лічым сваю летувіскую мову поўнавартаснай. Мы ганарымся ёю. Я аднолькава добра валодаю роднымі мовамі сваіх бацькі і маці. Маю стасункі з беларусамі Летувы і Менску, куды езджу па сваіх справах.

Аднойчы ў сталіцы Беларусі на транспартным прыпынку я размаўляў з знаёмым менчуком. Развітаўшыся, зайшоў у тралейбус. Разам са мною зайшла нейкая жанчына, з выгляду пенсіянерка, і пачала з добрым мясцовым акцэнтам знеслаўляць мяне за карыстанне беларускай моваю. Казала, што ёй бы "сорамна было размаўляць на гэтай мове, бо ёю ў гады вайны размаўлялі паліцаі, мова грубая, дурная"... і яшчэ казала нешта. Не першы раз у Менску я чую гэткія словы. Не падабаюцца мне носьбіты гэткіх думак, сапраўдныя манкурты без пачуцця нацыянальнай годнасці.

Я вельмі раззлаваўся і перарваў яе: "Мяне беларуская мова ня пляміць. Я летувіс і паважаю беларусаў. Не ў мове прычына! Не мова вінаватая, а вы - бо здрадзілі ёй і сваім продкам. Вам здаецца, што не будзе мовы і віна здрады не будзе пячы вам душу? Памыляецеся! Вам трэба скупіць сваю віну і гэтак пазбавіцца яе. Дык ці здольныя вы, калі запляміліся здрадай, адмыцца"?

Жанчына маўчала. Я ўжо пачаў адварочвацца ад яе, каб выйсці на наступным прыпынку, калі яна ціха пабеларуску прашаптала: "Няма мне шчасця!" - і заплакала.

**Барыс, энергетык.**

Незайдроснае становішча беларусаў - "Паміж Расіяй вечна ў латках і Еўрапейскім абцасам" - прывіло ў шматлікіх грамадзянаў паблажлівыя ці нават пагардлівыя адносіны да беларускай мовы.

Вось адзін прыклад. У менскім "Рускім тэатры" ідзе п'еса па "Раскіданым гняздзе" Янкі Купалы. У фае падчас антракту працуе беларускае тэлебачанне. Да нас з жонкай па-расейску звяртаецца тэлежурналіст: "Вас не удивляет, что в Русском театре спектакль идёт на белорусском языке"? Я адказаў, што ўдзячны тэатру за гэта і дадаў словы Рыгора Барадуліна:

*"Мы шмат наеліся эрзацаў*
*І наслужыліся панам.*
*На роднай мове агрызацца*
*Адно, што засталося нам".*

Мой знаёмы, сутыкаючыся з пагардлівым стаўленнем да нашай мовы выкарыстоўвае іншы верш таго ж Паэта:

*"Беларуская мова ад Бога.*
*Слову нашаму Бог дапамог.*
*Хто не любіць яе, ад тога*
*Назаўсёды*
*адвернецца Бог".*

Змагацца з бязглузда-варожым стаўленнем да мовы лепш грамадой. Чым больш будзе людзей заўсёды размаўляць па-беларуску, тым хутчэй нядобразычлівыя ці змоўкнуць ці будуць вымушаныя прыбрацца з нашай зямлі.

**Базыль, аўтагрузчык.**

Я лічу, што той, хто злосна кпіць з беларускае мовы, павінен добра адказваць за свае словы. Для мяне не мае дачынення, хто "аўтар" бязглуздых кпінаў - ці то расеец, ці беларус, перафарбаваны а-ля-рюс. Яны жывуць на беларускай зямлі, ядуць беларускі хлеб.

Як возьмеш перафарбаванца - даруйце - за шкірку, дык адразу ён заляментуе, згадае, што ён валожынскі хлопец, загаворыць на чысцюткай мясцовай трасянцы. У такой сітуацыі нават адзін масквіч не разгубіўся і ўсклікнуў да мяне: "Калі ласка, сябар, дзякуй!"

Часта я пытаюся ў перараджэнцаў: "Ты адкуль да нас з'явіўся? У цябе акцэнт, як у башкіра!" Ой не любяць гэтыя "рюския", калі іх прымаюць за башкіраў ці удмуртаў, а не за "старэйшага брата". Адразу ўспамінаюць, што яны ці з Быхава, ці з Смургоняў... Няма што з ненавіснікамі цацкацца!

**Ганна, майстар-цырульнік.**

Мне 21 год. Некалькі год таму я заняла другое месца на конкурсе "Менская прыгажуня". Я шукаю сабе шчырага беларускага хлопца, бо хачу чуць словы кахання па-беларуску і казаць словы кахання на роднай мове, мець дачку-беларусачку і хлопчыка-беларуса. Калі да мяне хлопцы звяртаюцца па-расейску, я адказваю ім на сваёй роднай мове і яны разумеюць, што я не для іх. Я пэўная, што і застаючыся сабою знайду свайго суджанага і буду шчаслівая.

**Сяргей, псіхолаг.**

Хто не адгукаецца ветла на маю беларускую гаворку, часцей за ўсё дрэнна ведае родную мову, ці для яго мая мова чужая.

Не кожны беларус хоча дэманстраваць, што неўпрыкмет згубіў сваю галоўную адметнасць - мову (а з ёю - і карані), што ў ягонай галаве не свая гісторыя, а мітычны Іван Сусанін, які завёў ліцвінаў у густы лес, і Мікалай II, раней "Крывавы", а цяпер "святы". І цяжка гэтаму беларусу, бо дзесьці ў падсвядомасці ён адчувае, што яго, як нашых продкаў, завялі кудысьці не туды, бо тут крывавыя каты робяцца святымі. І пачынае ён усведамляць, што "колькі б ні піў, рускага з яго не атрымаецца".

Я не дакараю, а шкадую таго, хто згубіў родную мову. Дакоры падзяляюць, адштурхоўваюць людзей адно ад аднаго. Я ж падахвочваю і радуюся з "бліжнім", калі з ягоных вуснаў прагучыць роднае слоўка.

Марна прасіць расейскага шавініста (няхай нават ён з'яўляецца жыхаром нашай краіны), паважаць беларускую мову, вучыць яе, карыстацца ёю. Для расейскага шавініста беларуская мова - нікчэмнасць. Бо ён ведае: за расейскай мовай сёння ў Беларусі падтрымка прэзідэнта, дзяржаўных СМІ, уся сіла і моц улады.

Але сама ўлада - усё-такі беларуская па азначэнні **павінна** заўсёды адчуваць маю **беларускую** прысутнасць, **павінна** з ёю лічыцца. Беларуская ўлада **мусіць** ч Беларускае Слова. І каб яно было пачутае: я дзейнічаю і руплюся, я працую, ды й проста жыву з роднай беларускай мовай на вуснах. А мая зямелька дае мне моцы.

Я супраць барацьбы на прымус, у бойцы ці сварцы. Там ліюцца кроў ці смаркачы, узьнікаюць абразы і раны, няма магчымасці для паразумення і развагаў, няма магчымасці змены адносінаў да суайчынніка. Да мяне і да яго.

**Святлана, энергетык.**

Магу распавесці некалькі гісторыяў, звязаных з карыстаннем беларускай моваю.

Аднойчы, едучы ў тралейбусе, я назірала даволі тыповую для нашага часу сцэнку: на пярэднім крэсле сядзяць два падлеткі, а побач стаіць бабулька з кіёчкам. Я звярнулася да хлопцаў з заўвагай, каб саступілі бабульцы месца. Але паколькі я гаварыла пабеларуску, яны пэўны час рабілі выгляд, што не разумеюць. Тады я гучна кажу: "Яны, напэўна, глухія". Гэта ўжо яны зразумелі і адказалі - матам. Я кажу: "Ага, аказваецца, яны ўсё чуюць і разумеюць! Дык вось ён, гэты вялікі, магутны рускі ... мат! А вось у нашай беларускай мове мату няма! І не было ніколі такога паскудства, яно для нас -чужое!" Увесь аўтобус моўчкі слухаў, ніхто ў размову не ўмешваўся. Маладзёны ўсё ж пацясніліся і вызвалілі месца для бабулькі.

Іншым разам у кампаніі маіх знаёмых ішла гаворка пра замежныя вандроўкі. Адна з іх расказвала, як ездзіла па турыстычнай пуцёўцы ў Чарнагорыю. У групе былі жанчыны з Расеі. Размаўляючы там па-расейску, яны сутыкнуліся з неразуменнем з боку мясцовага насельніцтва. Я слухала ды й кажу: "У расейцаў там сапраўды маглі быць праблемы з паразуменнем, а вось нашым беларусам варта было паспрабаваць пагаварыць з мясцовымі людзьмі па-беларуску!". А яна мне на тое: "Дык жа мы так і зрабілі! І сапраўды, дапамагло! Здолелі паразумецца з чарнагорцамі!" Я кажу: "Дык не дзіва. Беларуская мова - гэта еўрапейская мова, яе зразумеюць і ў Польшчы, і ў Славаччыне, і ў Чэхіі!" Расейскамоўныя жанчыны, якія прысутнічалі пры гэтай размове, былі, відавочна, здзіўленыя такім вызначэннем беларускай мовы (яны былі прывучаныя да таго, што беларуская мова "калхозная", "адсталая" і г.д., а тут - еўрапейская, у цывілізаваным свеце -зразумелая), і кажуць разгублена: "А мы зусім яе ня ведаем, нават не чытаем нічога па-беларуску!" Тут, відаць, яны ўпершыню падумалі, што беларускую мову варта ведаць, і я дапамагла ім гэта зразумець.

Неаднаразова здаралася мне сутыкацца і з станоўчай, і з адмоўнай рэакцыяй на беларускую мову.

Аднойчы ехала я ў транспарце з жанчынай, што мае вясковыя карані, а жыве ў Менску ў Чыжоўцы. Разгаманіліся - яна, як і большасць- на трасянцы, а я - па-беларуску. Яна і пытаецца ў мяне: "Адкуль у Вас такая беларуская мова? Вы так прыгожа гаворыце!" "Як адкуль?" - адказваю.- "Я ж беларуска!" "Ну і што",- кажа яна.- У нас тут амаль усе беларусы, але такой мовы рэдка пачуеш, усе па-расейску стараюцца..." "Дык хіба нармальна гэта? Мы ўсе павінны гаварыць сваёю моваю, а не чужой". - адказала я. І той жанчыне было цікава мяне слухаць, так хацелася паразмаўляць яшчэ, але я, на жаль, спяшалася, і давялося развітацца.

Іншым разам мы ехалі з царквы ў тралейбусе цэлым гуртом і ўсю дарогу размаўлялі між сабою пабеларуску. То потым да нас пачалі падыходзіць людзі і пытацца, хто мы і адкуль, што так цудоўна - усе! - размаўляем на нашай мове. А некаторыя і дзякавалі нам -за мову.

Але бывала і інакш. Аднойчы нейкі чалавек выказаўся ў адносінах да беларускай мовы абразліва і агрэсіўна. Тады я запыталася ў яго, а хто ж ён панацыянальнасці: рускі? беларус? Ён крыху сумеўся, бо не чакаў такога пытання, а я і кажу: "Дык вось, калі вы расеец, дык вы -шавініст, а калі беларус - то проста здраднік!" Лічу, што такіх людзей варта абсякаць і ставіць на месца, каб яны адчувалі: праўда - за намі.

**Андрэй, навучэнец сярэдняй школы, 10 клас.**

Я толькі паўгады таму перайшоў на беларускую мову і мушу сказаць: ніколі не думаў, што будуць такія станоўчыя рэакцыі на маю мову. Думаў, што будуць па старой паслякаланіяльнай звычцы казаць штосьць накшталт: "Колхознік". А тут усё наадварот: мне на кірмашах зніжаюць кошты за тавары, падвозяць дадому, у кавярнях даюць нейкія фірмовыя зніжкі, кудысь запрашаюць і г.д. Але вось што хацеў бы зазначыць. Прыемна, канечне, калі дзякуюць, выказваюць захапленне: "Ах, як Вы прыгожа гаворыце па-беларуску!", "Я такой добрай мовы ніколі ня чула!", "Я таксама люблю беларускую мову"... Але пасля прыйшла нейкая крыўда: ну, калі ўжо ўсе так любяць родную мову, калі так прыгожа гэта і так цудоўна, дык чаму б нам усім не перайсці на беларускую мову? Нешта людзям перашкаджае, нечага нібыта чакаюць, нейкага штуршка, ці што... Некаторыя, як, напрыклад, дзяўчынкі з нашым двары, дзівяцца: як гэта можна размаўляць пабеларуску, як можна ўвогуле перайсці на беларускую мову? Пытаюцца, дзе і колькі я для гэтага навучаўся?

Яшчэ хачу адзначыць, што беларуская мова дапамагае мне завязаць знаёмствы. Бывае, цяжка знайсці з чалавекам пункты сутыкнення. А калі па-беларуску размаўляеш, то гэта часта дае зачэпку для кантакту. Расейскамоўныя часцей запытаецца: "Чаму ты гаворыш па-беларуску"? Калі мне цікавы гэты чалавек, я стараюся адказаць нея неадназначна. Тады за гэтым пытаннем з'яўляюцца іншыя, размова працягваецца і можна ўсталяваць з гэтым чалавекам прыязныя адносіны, нават стаць сябрам. І ў гэтым дапамагае беларуская мова!

**Святлана, выкладчыца музыкі.**

Маё жыццё, можна сказаць, праходзіць у беларускамоўным асяроддзі. З усімі сваімі блізкімі, з усімі без выключэння сябрамі і знаёмымі я размаўляю толькі па-беларуску. Гэта дае мне адчуванне душэўнага камфорту, адэкватнасці, нармальнасці. Беларуская мова для нас - гэта не проста мова зносінаў, але і мова асаблівы глыбокага паразумення, паяднання, салідарнасці, узаемнай сімпатыі і любові. У сваім асяроддзі я адчуваю сябе сапраўднай беларускай у сваёй Беларусі і сярод сваіх суайчыннікаў. Вядома, чалавек любой краіны павінен гэтак жа пачувацца ўдома. Але ў Беларусі я адчуваю сябе так толькі ў беларускамоўным асяродку. На жаль, такія асяродкі ў нас - толькі выспачкі ў мяшанкаруска-моўным акіяне, праз які мусіш перабірацца, які мусіш перасякаць. І вось тут сутыкаешся з рознымі людзьмі і рознымі адносінамі да беларускай мовы.

Найчасцей гэтыя адносіны бываюць прыхільнымі. Людзі радыя чуць родную беларускую мову, імкнуцца адказаць табе пабеларуску. Часам, бачыш, што чалавек валодае мовай і радуецца выпадку пагаварыць, але ў сваім асяроддзі ёю не карыстаецца - з-за неразумення з боку іншых (на працы, прыкладам), ці з-за нежадання "вытыркацца". Беларуская мова для яго гучыць як пароль, і ён адгукаецца: маўляў, я - свой, я таксама беларус, я таксама патрыёт. Такія сустрэчы заўжды прыемныя, часам служаць пачаткам нейкіх далейшых кантактаў, знаёмства, сяброўства. Бывае, і людзі, адвучаныя ад роднай мовы, усё ж хочуць сказаць штось па-беларуску, пачуўшы ад вас беларускае слова. Штось адгукаецца ў іхняй душы, растае гэты лёд, які там нарос. Яны дзякуюць вам за беларускую мову, стараюцца сказаць добрае слова. Часам і з такімі людзьмі завязваецца размова, і гэта магчымасць заклікаць іх таксама вяртацца да сваёй мовы, штосьць ім параіць, падказаць (дзе ёсьць якія курсы ці беларускамоўныя асяродкі). Нават, калі сёння яны яшчэ не гатовыя карыстацца такімі парадамі, гэта можа паслужыць нейкім першым штуршком, і ў далейшым усё ж адыграе сваю ролю.

Бывае і абыякавая рэакцыя на тваю беларускую мову. Чалавек не выказвае ніякіх адносінаў, часам толькі штось перапытае. Гэта значыць, што людзі прывыкаюць да мовы, як бы самі да яе не ставіліся. І гэта добра, няхай чуюць як найчасцей і прывыкаюць далей. Беларуская мова прысутнічае ў нашай беларускай прасторы і гэта нармальна.

(Працяг на ст. 4.)

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Святлана Багданкевіч*

# Як і з кім я размаўляю па-беларуску?

*(Працяг. Пачатак на ст. 3.)*

Нярэдка, аднак, даводзіцца сутыкацца з рэакцыяй непаразумення на беларускую мову. Жывучы ў краіне абсурду, чалавек прызвычайваецца да гэтага паўсюднага абсурду і таму "не можа зразумець": "А почему эта вы говорите по-беларускі?" У нашым перакуленым свеце здзіўленне выклікае хтосьці, хто не ходзіць дагары нагамі. Вось пра гэта я такім людзям і кажу: "Перавярніцеся з галавы на ногі! Здыміце з вачэй шоры! У Беларусі нармальна і трэба гаварыць па-беларуску! Гэта ў вас трэба запытацца, на якой мове размаўляеце вы! І чаму? Вось пра што варта падумаць"!

Нарэшце, надараюцца выпадкі, калі беларуская мова выклікае адмоўную, а часам нават агрэсіўную рэакцыю. Найчасцей такое здараецца ў выніку нечай нявыхаванасці і неадукаванасці, ча..авеча..і няразвітасці (і гэта трэба ўсведамляць, каб іранічна ўспрымаць нейкія абразлівыя выказванні), але бывае, што ў такіх паводзінах прысутнічае пэўны садысцкі разлік. Трэба разумець, што ліхім чалавекам, які хоча нанесці балючы ўдар, рухае ўпэўненасць у сваёй беспакаранасці. Таму варта мець на ўвазе, што ёсць закон, які прадугледжвае адказнасць за абразу нацыянальнай годнасці. Але гэта на скрайні выпадак, на кожны ж дзень варта мець у запасе моцны аргумент, вострую лаканічную фармулёўку, якая дзейнічала б бездакорна і ставіла нахабніка на месца. Асабліва важна ўмець даць спакойны, годны і пераканальны адказ такому чалавеку ў прысутнасці іншых, гэта будзе мець добры эфект.

***Людміла, выставачны менеджэр.***

Карыстаючыся роднай мовай, я адчуваю сябе ўпэўнена і лічу, што гэта самае галоўнае, бо калі нават сустракаеш негатыў у адказ, то весь гэтая ўпэўненасць спыняе "ненавіснікаў" беларускай мовы, не дае ім разгарнуцца са сваім негатывам.

На працы я ўсё ж мушу карыстацца і расейскай мовай таксама, да гэтага мяне змушаюць абставіны - я павінна кантактаваць з самымі рознымі людзьмі, і дзеля дасягнення станоўчага выніку трэба, каб людзі дакладна мяне разумелі, каб на прафесійныя адносіны не накладалася чыясьці негатыўная рэакцыя па моўнай прыкмеце. Калі ж я бачу, што чалавек мову ведае, то тады, натуральна, карыстаюся беларускай. Гэтак сама і ў штодзённым жыцці. Нават дома з сынам бывае не так проста, бо ўвесь ягоны час праходзіць у расейскамоўным асярод-ку, і часам я бачу, што сказанае па-беларуску да яго нібы не даходзіць, хаця збольшага мову ён ведае, можа на ёй падтрымаць размову (калі захоча, вядома).

Не магу ўсё ж сказаць, што я часта сутыкаюся з негатыўным стаўленнем да беларускай мовы. На працы ўсе ўжо прывыклі і ніхто са мной не спрачаецца, ніякіх штучных "пытанняў" на гэтай глебе не ўзнікае. Я вывешваю шыльды па-беларуску, раблю на роднай мове квіткі, каталогі, дыпломы, рэкламу ў метро ды на тэлевізіі - яны ўжо самі гэта робяць для мяне па-беларуску, нават нагадваць не трэба. Ды і што тут можна запярэчыць: беларуская мова ў нас усё ж дзяржаўная, да таго ж, у нашых выставах удзельнічаюць таксама і замежнікі, і тут ужо справа гонару, каб на выставе прысутнічала і нацыянальная мова. І ўсё ж гэта толькі дзякуючы маёй пазіцыі адбываецца і толькі на маіх выставах - як выключэнне. Больш нікога гэта не рупіць, усе астатнія выставы звыкла праходзяць выключна па-расейску.

Каб папярэдзіць негатыўнае стаўленне да свайго беларускамоўя, даводзіцца выпрацоўваць пэўную схему паводзінаў, якая ставіць людзей на месца. Выратоўвае ўпэўненасць, магчыма нават некаторае ўменне паглядзець нібы звысоку - маўляў, ну што ты мне там кажаш, што яшчэ табе не падабаецца? Нібы крышку прыўзняцца. І ведаеце, гэта спрацоўвае. "Ненавіснікі" беларускай мовы прызвычаіліся браць верх сваім нахабствам і беспардонасцю, чакаюць, што на іхную лаянку па звычцы з часоў сталінізму беларус адразу самравіва сціснецца, нібы скамечыцца, адыдзе ўбок, і ўсё будзе па-іхняму.

Часта мы тут маем справу з праявамі ваяўнічага невуцтва. Ды толькі са мной гэта не праходзіць. Аднойчы адна мая супрацоўніца, пабачыўшы беларускамоўнае афармленне выставы, запыталася з выклікам: "А ці не шавінізм гэта"? Я адказала, што, відаць, яе дрэнна вучылі ў школе, але трэба цвёрда ведаць, што шавінізм - гэта нянавісць да ўсяго чужога, а любоў да свайго - гэта патрыятызм. "Вось і разбірайцеся, хто тут патрыёт, а хто шавініст".

З іншага боку мне здаралася сустракаць і вельмі станоўчую рэакцыю на маю беларускамоўнасць. Неяк у паліклініцы, чакаючы сваёй чаргі, я размаўляла з суседкай па-беларуску, а трэцяя жанчына прыслухоўвалася да размовы, глядзела на мяне нібыта са здзіўленнем, а тады падышла, каб сказаць, што яе вельмі ўразіла мая беларуская мова: "У вас так цудоўна атрымліваецца! Вось, аказваецца, як прыгожа можна размаўляць па-беларуску! Вы гаварыце, гаварыце заўсёды! У Вас нейкая асаблівая мова, мяккая, натуральная, зусім не тое, што часам даводзіцца чуць"! З гэтага можна зрабіць выснову, што прыгожая, правільная мова выклікае станоўчую рэакцыю, таму нашым адраджэнцам варта працаваць над сваёй мовай, каб ствараць яе прывабны вобраз. Гэта наш грамадзянскі абавязак!

Праўда, бывалі ў маім жыцці і іншыя выпадкі, звязаныя з беларускай мовай. На пачатку 1990-ых, калі я толькі пачала ў штодзённым жыцці размаўляць па-беларуску, адбыліся ў мяне непаразуменні з дзвюма маімі суседкамі. Адна з іх выказалася ў размове са мной, што, маўляў, "наслася гэтай беларускай мовы", "не трэба яна ні мне, ні майму сыну", другая, прыехаўшы з Расіі і не ведаючы аніводнага беларускага слова, з выклікам заяўляла (на маю заўвагу, што не шкодзіла б хаця б збольшага ведаць мову той зямлі, на якой жывеш), што "и не собирается учить этот белорусский язык". Я з імі шмат не спрачалася, проста "зачыніла перад імі дзверы сваёй кватэры". Гэта, вядома, іх здзівіла, але, несумненна, дапамагло штосьці зразумець. Такія рэчы трываць нельга, бо тут мусіць існаваць нейкая маральная забарона, нейкія рамкі чалавечай прыстойнасці.

# Мы з табою – палешукі

У песенным рэпертуары праслаўленага аматарскага мастацкага калектыву ёсць песня з аднайменнай назвай. А размова ідзе пра знакаміты не толькі на Піншчыне і ў Беларусі, але і далёка за іх межамі, ансамбля песні і танцу "Палескія зоры"

Чаму ў назву свайго артыкула я паклаў гэтае ёмкае словазлучэнне? Думаю, што чытач адчуе, як і адчуў я, калі пабудзе на канцэртных выступленнях самадзейных артыстаў "Палескіх зораў". А для тых, каму яшчэ не пашанцавала пабываць на выступленні гэтага мастацкага калектыву. Зраблю кароткі ўступ.

Кожны чалавек павінен ганарыцца сваёй краінай, сваімі каранямі, той зямлёю, што дала яму жыццё, якая выхавала ў табе чалавека-патрыёта!. Толькі вялікая любоў да свайго краю, да Бацькаўшчыны, да народа, да нацыі, можа зрабіць багатымі чалавека і яго радзіму і духоўна, і матэрыяльна. Багатай можа стаць толькі тая краіна, якая ўмее цаніць сваю нацыянальную культуру, векавыя народныя абрады і традыцыі, гераічную і працоўную гісторыю.

У аснове духоўнага багацця любой дзяржавы ляжаць нацыянальная мова, народная культура, дзяржаўныя сімвалы. Каб адчуваць высокае пачуццё сваёй прыналежнасці да беларускай нацыі, каб адчуць, што ты – чалавек-беларус, трэба, мне здаецца, нямнога. Па-першае, каб пачуваць сябе чалавекам-беларусам, неабходна штодзённа чуць родную мову, ужываць сабе матчына слова ў размове з роднымі, сябрамі, суседзямі, калегамі. Другое, каб ганарыцца, што ты – беларус, неабходна ведаць дзяржаўны гімн, гісторыю герба і сцяга.

А цяпер давайце чэсна прызнаемся перад сабою, як перад Богам, што ўжываем роднае слова штодзённа?

Прызналіся? Зрабіце выснову. Хто мы? Ці можам мы сцвярджаць, што мы з табою - беларусы?

Вось параўнаўча нядаўна я сябе адчуваў сапраўдным беларусам. І дапамаглі мне гэта адчуць дзве акалічнасці. Першая: мы ўсім сямействам адправіліся на справаздачны канцэрт "Палескіх зораў". Селі ў аўтобус № 11 на прыпынку "Кінапракат". Тут побач жыве дачка. Прагожы дзявочы галасок паведаміў: "Асцярожна. Дзверы зачыняюцца. Наспупны прыпынак "Інтэрнацыянальная". Жонка прыемна здзівілася, бо пачула гэтае ў Пінску ўпершыню. Здараецца дробязь. Але прыемна. І да канца нашай паездкі мы чулі беларускую гаворку з радыёдынаміка: "Паважаныя пасажыры, уступайце месцы інвалідам, людзям старога ўзросту, жанчынам з дзецьмі. Не забывайце разлічвацца за праезд. Наступны прыпынак "Нацыянальны банк". Праўда, трэба заўважыць, што яшчэ не па ўсіх маршрутах ходзяць такія аўтобусы. Але мне хацелася ехаць да канца маршруту, каб зайсці ў кабінет дырэктара АТП №3 Ананія Хвасцюка, паціснуць руку і падзякаваць за прыемныя хвіліны паездкі ў аўтобусе. Трэба спадзявацца, што кіраўніцтва аўтобуснага парка знойдзе сродкі, каб абсталяваць аўтобусы ўсіх маршрутаў падобнай апаратурай. Было б правільна, каб і кіроўцы аўтобусаў і кандуктары загаварылі з пасажырамі па-беларуску.

Другое. Мы на канцэрце славутага ансамбля песні і танцу "Палескія зоры". Самадзейныя артысты прадстаўлялі высокай камісіі сваю песенную і танцавальную праграму на права насіць ганаровае званне "Заслужаны аматарскі калектыў РБ". Канцэрт вёўся на беларускай мове, у асноўным канцэртная праграма складалася з беларускіх песняў і танцаў. Заключнае слова мастацкі кіраўнік ансамбля Міхась Цурканаў прамовіў па-беларуску.

Калектыў "Палескія зоры" да звання "Народны". існаваў у "Будтрэсце" шаснаццаць гадоў. Але з развалам Саюзу, будаўнічая арганізацыя проста фінансава не змагла ўтрымліваць такі вялікі калектыў спевакоў і танцораў. І "Палескія зоры" знаходзяць сваю новую прапіску ў гарадскім ДК. Міхаіл Васільевіч з удзячнасцю ўспамінае, што тое кіраўніцтва "Будтрэста", выпраўляючы калектыў у новую дарогу, падарыла сцэнічныя касцюмы, музычныя інструменты і іншы рэквізіт.

Як ужо ўзгадвалася, славуты калектыў рыхтуецца адзначыць свой трыццаты дзень нараджэння. І ўсе гэтыя гады яго нязменным мастацкім кіраўніком з'яўляецца Міхась Цурканаў. Тры дзесяткі гадоў таленавіты майстар песні і танцу нясе ў масы нацыянальную культуру і мову, дорыць людзям радасць і вяселле.

За гэты час Міхась Васільевіч не толькі вёў свой калектыў да звання "Заслужанны", але гадаваў і выхоўваў сына. А зараз яго ўцехай з'яўляюцца унук Міхаська, які названы ў гонар дзеда і ўнучка Юлька. Міхась- малодшы таксама танцор, а ўнучка Юля ўжо спявае.

Да ўсіх узнагарод і званняў, якія заваявалі спевакі і танцоры за ўсе гады, члены камісіі адзінагалосна вырашылі дадаць ганаровае званне "Заслужаны".

Пакуль што гэта адзіны калектыў у Пінску, які носіць такое званне. Нагадаю, што ў вобласці іх толькі чатыры.

Міхась Цурканаў і яго бліжэйшыя памочнікі Людміла Варазлава і Васіль Кавалік добра разумеюць, што нялёгка было заваяваць такое высокае званне. "Заслужаны", а яшчэ цяжэй будзе ўсё жыццё яго апраўдваць. Але каманда Міхася Цурканава і весь калектыў гатовы несці гэты цяжар годна і адказна.

Хутка гэты масціты калектыў адсвяткуе свой 30-гадовы юбілей. У калектываў, як і ў людзей, ёсць свой жыццёвы і творчы шлях. А ён пачынаецца з нараджэння. "Палескіх зораў" магло б і не быць. Але нам пашанцавала, бо амаль тры дзесяткі гадоў таму назад з Камянеччыны ў Пінск прыехаў Міхась Цурканаў. Ён і стаў "бацькам" "Палескіх зораў".

Ёсць неабходнасць больш падрабязна прасачыць за лёсам гэтага таленавітага чалавека. У вёсцы Сухадол, што у камянецкім раёне Берасцейскай вобласці, нарадзіўся Міхась. Скончыўшы дзесяцігодку, хлопец пасвіў калгасных кароў. Там, на лузе праходзілі яго ўласныя рэпетыцыі, бо ён яшчэ са школьных гадоў удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. І як лепшы ўдзельнік, артыст-аматар быў накіраваны ў менскую харэаграфічную вучэльню. Скончыўшы вучобу ў сталіцы, ён вяртаецца ў родную вёску і арганізуе новы калектыў спевакоў і танцораў.

Хутка калектыў заваёўвае славу не толькі ў Камянецкім раёне, але і ў Берасцейскай вобласці, займаючы прызавыя месцы на конкурсах і аглядах.

І зноў вучоба. На гэты раз, як лепшы кіраўнік мастацкага калектыву, ён атрымлівае накіраванне ў Маскву, на курсы балетмайстраў у знакаміты ГІТіС.

І калі стала пытанне выбару месца работы, Міхась без вагання выбірае Пінск. Чаму Пінск? Як прызнаецца сам Міхась Цурканаў, ён аднойчы пабыў у гэтым горадзе і палюбіў яго назаўсёды.

Тут, у горадзе над Пінай, у "Будтрэсце-2" Міхась Васільевіч, калі можна так сказаць, на голым месцы стварае новы калектыў самадзейных артыстаў. І ўжо праз паўгода пра калектыў загаварыл ў горадзе...

Хочацца пажадаць "Палескім зорам" ярка свяціць, каб наша Піншчына ў гэтым святле была відаць і чуваць далёка-далёка.

Я ганаруся, мусіць як і ўсе пінчукі, што мы з табою Міхась Васільевіч – ПАЛЕШУКІ!

***Уладзімір Гук,***
***старшыня Пінскай раённай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.***

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Рыцары застаюцца ў Лідзе

Міжнародны рыцарскі турнір, які прайшоў у Лідзе 17-18 верасня не сыходзіць з памяці лідзян. Фатаграфіі з турніру запоўнілі горад. У дадатак нядаўна быў выдадзены камплект насценных календароў, прысвечаных турніру. Календары аформлены на беларускай мове. Месяцы напісаны па-беларуску і па-англійску.

Календары можна набыць па адрасу: **г. Ліда, вул. Перамогі, 37, фотацэнтр Ігара Пешахонава "Master".**

На сайце **www. region.lida.by** праводзіцца галасаванне па пытанні: "Ці варта праводзіць турнір "Замак Гедзіміна" ў наступным годзе. Па стану на 11 снежня за правядзенне рыцарскага турніру ў наступным годзе выказалася 93,8 % наведвальнікаў сайту, і калі голас народу - сапраўды голас Божы, то турніру ў 2006 годзе быць.

*Яраслаў Грынкевіч.*




# Усход і Захад пад адным дахам

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры днямі адкрыліся дзве фотавыставы. Адна распавядае пра сучасную Расію, другая – пра Беларускую мінуўшчыну. На першай прадстаўленыя творы вядомага майства А. Забалоцкага. Назва гаворыць сама за сябе – "Русь". Веси, Грады, Лики, Земля..." Аб'ектыў Забалоцкага фіксуе вобразы так званай "былиннай Русі", інакш кажучы – амаль некранутай цывілізацыяй расійскай глыбінкі. Той, у пэўнай ступені адвечнай Расіі, што пачынаецца за Маскоўскай акружной дарогай і, абмінаючы экалагічна небяспечныя агламерацыі пры заводах-гігантах, доўжыцца да ўзбярэжжа Ціхага акіяна. Гэтая тэрытарыяльная раскоша, гэтыя неабсяжныя далягляды, дзе чалавечая прысутнасць сціпла пазначана шэраю купаю вясковых хат альбо самотным сілуэтам манастыра, звычайнам захапляюць замежнікаў, асабліва жыхароў густа заселенай, шчыльна забудаванай і цывілізацыйна насычанай Еўропы. На выставе Забалоцкага не пакідае ўражанне, што на Вялікай рускай раўніне час спыніўся...

Замаруджаны час адбіваецца ў постацях і тварах.

У зале насупраць – "Культура беларускіх земляў на фотаздымках XIX стагоддзя. З фондаў Нацыянальнага музея ў Варшаве". Імёны Юзафа Барэцы і Яна Садоўскага, нажаль, мала вядомыя ў Беларусі. А між тым гэтыя асобы вартыя удзячнасці за ўнёсак у Беларускую культуру. Яны здолелі захаваць для гісторыі вобраз нашага краю на мяжы мінулага і пазамінулага стагоддзяў.

Гэта храмы розных канфесій, замкі, палацы, маёнткі, сюжэты местачковага побыту і сялянскай працы. Гэта шляхта, месцічы, сяляне. У 1894 годзе Барэцы зрабіў фотападарожжа па мясцінах, звязаных з жыццём Адама Міцкевіча. Вынікам той вандроўкі стала выданне двух альбомаў, частка матэрыялаў з якіх прадстаўленая ў дадзенай экспазіцыі. Ян Садоўскі меў фотаатэлье ў Гародні. Ягоныя героі – прататыпы літаратурных герояў Элізы Ажэшкі.

Выступаючы на прэзентацыі, прадстаўнікі польскай дэлегацыі адзначылі, што гэты пласт культуры ў значнай ступені страчаны і ў Польшчы, хоць гэты рэгіён колішняй Рэчы Паспалітай і не зведаў такога гвалту і разбурэнняў, як Беларусь за апошнія два стагоддзі. Гэта выстава – напамінак пра агульныя культурніцкія карані дзвюх еўрапейскіх нацый. І каменьчык ў падмурак будучыні.

*Пётра Васілеўскі.*

Русь

Веси, Грады, Лики, Земля...

Выставка

Фотокомпозиция А.Заболоцкого



г.Минск

приглашение

КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯЎ на фотаздымках XIX ст.

з фондаў Нацыянальнага музея ў Варшаве

10 лістапада - 15 снежня 2005 года
Мінск, вул. К. Маркса 12
Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі



| МУС Рэспублікі Беларусь | МВД Республики Беларусь |
|---|---|
| **Упраўленне ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама** | **Управление внутренних дел Минского облисполкома** |
| вул. Кальварыйская, 29 220079, г. Мінск | ул. Кальварийская, 29 220079, г. Минск |
| тэл. (017) 259 15 41, факс 207 67 01 | тел. (017) 259 15 41, факс 207 67 01 |

11.11.2005 № 6/ВСД/... 
На ________ ад ________

**Председателю гражданского объединения «Товарищество белорусского языка им. Ф.Скорины» Трусову О.А. 220034, г. Минск ул. Румянцева, 13**

**Уважаемый Олег Анатольевич!**

Сообщаю, что по направленному Вами в Минский областной исполнительный комитет заявлению о принятии решения по срочному применению технических средств, необходимых для розыска правонарушителей и охраны семьи Лапицких УВД Миноблисполкома проведено разбирательство.

Изучены материалы предыдущих проверок, а также уголовное дело, возбужденное по факту повреждения и залития не установленными лицами краской оконного стекла квартиры семьи Лапицких. В настоящее время уголовное дело находится в производстве и по нему назначена комплексная химическая экспертиза и экспертиза изделий из стекла. Для раскрытия данного преступления будут приняты все меры, в том числе, с использованием технически средств. Ход расследования взят на контроль руководством управления предварительного расследования УВД Миноблисполкома.

В целях обеспечения надлежащего общественного порядка на прилегающей к дому 3 по пр-ту Ф. Скорины в г. Жодино территории, где проживает семья Лапицких, начальнику Жодинского отдела внутренних дел поручено организовать выставление в вечернее и ночное время нарядов милиции. К месту расположения дома приближены наряды Департамента отдела охраны, ГАИ.

Вместе с тем, предлагаю установить в квартире Лапицкого А. И. охранно-пожарную сигнализацию, что позволит сотрудникам милиции оперативно реагировать на попытки проникновения в квартиру Лапицких, а также в случаях повреждения периметра жилища. По вопросам ее установки и формирования абонентской платы необходимо обратится в подразделение Департамента охраны Жодинского ГОВД в удобное для него время.

**ВРИОД заместителя начальника Управления В.И.Синявский.**

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўнае спадарства, ідзе падпіска на першае паўгоддзя 2006 года.

Не прамініце скарыстацца з магчымасці падпісаца на самую беларускую газету нашай краіны.

Будзьце з намі, і вы будзеце ў цэнтры падзей, якія адбываюцца ва ўсім беларускамоўным спектры Беларусі і замежжа.

РП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Колькасць камплектаў **1**

На 2006 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

Куды ________ (адрас)

(паштовы індэкс)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Кошт: падпіскі 3810 руб.; пераадрасоўкі ___ руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2006 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

Куды ________ (адрас)

(паштовы індэкс)

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# "Гута" – 75. Юбілейны рэпартаж.

***ПРАДМОВА***

*Сёлета тэатру імя Янкі Купалы – 85 год, а п'есе "Гута" Рыгора Кобеца, якая ставілася калектывам купалаўскага тэатра – 75 год. Рэпартаж, які друкуецца ў гэтым нумары – своеасабліавае віншаванне двух юбіляраў.*

*Рыгор Кобец (сапраўднае Міхайла Драч) памёр у 1990 г. 15 год таму. Акрамя знакамітай "Гуты" у скарбніцу беларускай нацыянальнай культуры ён унёс яшчэ два значныя мастацкія творы: кінафільм "Двойчы народжаны" (першы гукавы і першы фільм на беларускай мове), "Шукальнікі шчасця" (сусветна вядомая кінакамедыя). За станаўленне і развіццё беларускай кінематаграфіі Рыгор Кобец у 1935 годзе атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.*

*Гэты рэпартаж прысвечаны славутай "Гуце". У ім – пра лёс і прыгоды беларускай п'есы. Друкуецца са скарачэннямі.*

***Алена Кобец-Філімонава.***

**"Рыгор Кобец – гэта беларускі Марцін Ідэн. Марцін Ідэн прыходзіць у літаратуру ад фізічнай працы, Рыгор Кобец – таксама. Марцін Ідэн заваёўваў сабе імя талентам, Ргор Кобец – таксама..."**

Гэтыя словы належаць паэту Анатолю Вольнаму.

17 чэрвеня 1988 года у газеце ЛІМ аўтар нарыса "Будзем ісці разам", узгадваючы падзею на пагранічнай станцыі Негарэлае (сустрэчу Горкага ў 1928, калі ён вяртаўся з Сарэнта), паведаміў: *"Ад імя рабочага класа рэспублікі выступіў качагар драждажавога заводу Р. Кобец, які неўзабаве стане вядомым драматургам, аўтарам славутай п'есы "Гута"..."*

Народны артыст Беларусі Ўладзімір Іосіфавіч Уладамірскі ў 1963 годзе на адваротным баку фотаздымка (ён у ролі Цыганка) напісаў: *"Значнай падзеяй у жыцці ўсяго нашага беларускага тэатральнага мастацтва з'явіўся спектакль "Гута" ("Шклозавод") Кобеца ў пастаноўцы тэатра імя Янкі Купалы (1930)... Было мне тады ўсяго 33 гады".*

Упершыню п'еса "Гута" была надрукавана ў 1929 годзе ў часопісе "Маладняк" (№ 8-10). *"... З'яўленне такой рэчы, як "Гута" Рыгора Кобеца, вельмі дадатнае і значнае з'яўшча"*, - заявіў малады крытык У. Сядура ("Савецкая Беларусь", 1929. 17 верасня), як толькі першы акт быў надрукаваны ў "Маладняку". Часопіс быў нарасхват. У бібліятэках нават на чаргу запісваліся. У некаторых школах праводзіліся канферэнцыі чытачоў. А яшчэ ж тэатральнай пастаноўкі не было!

"Гута" – псіхалагічная драма. Яна адлюстроўвае жыццё рабочых шклозавода, якія выдзімаюць шкло саматужным метадам. У выніку – людзі хварэюць на сухоты і паміраюць. Стары рабочы-вынаходца Мароз па сваіх чарцяжах будуе шкловыдзімальную машыну. Нягледзячы на перашкоды майстроў, якім выгадна выдзіманне шкла старым метадам, Мароз і яго памагаты, малады энтузіяст Цыганок, перамагаюць. Падзеі ў "Гуце" адбываюцца ў 1928 годзе. Гэта першая п'еса аб рабочых Беларусі.

Тагачасная прэса адзначыла, што ў "Гуце" ўпершыню на еўрапейскай сцэне паказаны працэс выдзімання шкла.

Лёс п'есы бліскучы, але і цярністы (так заўжды бывае з таленавітымі творамі). Яна ставілася ў тэатрах амаль усіх рэспублік Савецкага Саюза і пяці замежных краінах (Чэхаславакіі, Польшчы. Румыніі, Аўстрыі, Венгрыі).

Першая пэм'ера "Гуты" у пастаноўцы БДТ-1 адбылася ўвесну 1930 года у г. Гомелі. У Маскве – 25 чэрвеня ў тэатры МХАТ-2 на Першай усесаюзнай алімпіядзе тэатральнага мастацтва. Прэм'ера у Менску адбылася пасля вяртання тэатра з Масквы 14 ліпеня ў памяшканні БДТ-1. Прэм'ера ў Празе адбылася 22 лістапада 1931 года ў Вялікім тэатры аперэты. У іншых гарадах Чэхаславакіі п'еса была паказана раней. "Гута" – першая беларуская п'еса, якая ставілася за мяжой, і першая савецкая п'еса, якая ў перакладзе на чэшскую мову ставілася ў Чэхаславакіі.

Спектакль "Гута" у пастаноўцы беларускага тэатра на Першай усесаюзнай алімпіядзе ў Маскве заняў першае месца, падзяліўшы яго з грузінскім тэатрам імя Руставелі, які ставіў п'есу "Ламара". Выступленне БДТ-1 на алімпіядзе – гэта самая яркія старонкі ў гісторыі тэатра.

Першая назва "Гуты" – "Карусель".

Рэжысёр Е. Міровіч прыняў "Гуту" да пастаноўкі ў БДТ-1 у чэрвені 1929 года, калі тэатр абнаўляў свой рэпертуар. Гэта абвясціла газета "Рабочий" 3 ліпеня.

Пасля прэм'еры ў Магілёве тая ж газета "Рабочий" друкуе станоўчы водгук: *"... Артысты паказалі, што яны цудоўна могуць спраўляцца з сучасным матэрыялам... Асабліва хораша гралі артысты Крыловіч (Мароз) і Ўладамірскі (Цыганок)... Крыловіч і Ўладамірскі цудоўна зразумелі думкі аўтара і стварылі вельмі моцныя пераканаўчыя вобразы". (З.Д. "Гута": Новая пьеса Григория Лохматога (Кобеца) в постановке БДТ-1. "Рабочий", 1930, 27 мая.)* Дарэчы, гэта публікацыя і іншыя абвяргаюць выдумку Я. Рамановіча, быццам "Гута" на прэм'еры ў Магілёве праваліся. Наадварот, першыя спектаклі "Гуты", як у Гомелі, так і ў Магілёве, прайшлі з вялікім поспехам.



*Рыгор Кобец, 1968 г.*

У 1930 вядомы беларускі крытык А. Некрашэвіч выпускае кнігу пад назвай "БДТ-1", прысвечаную 10-годдзю тэатра, у якой аўтар называе "Гуту" адным з лепшых твораў не толькі на беларускай сцэне.

Пасля прагляду "Гуты" на алімпіядзе прэса адзначыла, што поспех спектакля быў трыумфальны: *"Шла пьеса Г. Лохматого "Гута". Спектакль имел величайший успех. Отдельные моменты игры во время хода действия прерывались бурными аплодисментами. После каждого действия занавес поднимался до десяти раз. После спектакля выступающие с оценкой жюри отметили, что «Гута» - один из лучших спектаклей Олимпиады и должен занять одно из первых мест при присуждении премии» («На театральной Олимпиаде». «Рабочий, 1930, 29 июня).*

Старшыня ВЦВК М.І. Калінін (ён глядзеў "Гуту") у гутарцы з Е. Міровічам выказаў думку, што ў спектаклі правільна паказана жыццё беларускага рабочага, што БДТ-1 можна смела паставіць як узор для ўсіх тэатральных калектываў, нават маскоўскіх, у якога можна павучыцца, як ствараць і ставіць п'есы аб рабочых. (Пра гэта піша А. Есакоў у кнізе "Ўладзімір Крыловіч" (1956), с. 118-119).

Тэатральны крытык А. Глебаў выказаў думку, што пастаноўка "Гуты" беларускім тэатрам з'яўляецца лепшым доказам яго росту.

Водгукі відных расійскіх тэатральных крытыкаў шчодра сыпаліся са старонак газет і часопісаў: "Известия", "Литературная газета", "Рабочий и искусство", "Театр и революция", "Новый мир". "Советский театр", "Театр і драматургия" і шмат іншых.

З водгука тэатральнага крытыка П. Маркава: *"Кобец в пьесе "Гута" наблюдательно и свежо рассказывает о стекольном заводе в глухом углу Белоруссии... Зорко отмечает факт влияния крестьянского окружения на отсталые слои рабочих, он передает его в жывых образах... Кобец сливает отдельные черточки быта с целеустремленностью пьесы: она не кажется нарочитой. И белорусская окраина встает в живых и убедительных очертаниях". (П. Марков. "Очерки современного театра. Олимпиада национальных театров". "Новый мир". 1930, № 10).*

*Газета "Известия": "Первый Белорусский Гостеатр, выступавший на Олимпиаде с пьесами Кобеца "Гута" ("Стеклозавод") и Курдина "Межбурье", является очень ярким революционным театром... Сейчас театр апределенно берется за новую белорусскую драматургию, отвечающую на запросы эпохи реконструкции... В пьесе очень хорошо выведен тип старого рабочего-изобретателя (превосходно исполненного Крыловичем), наряду с которым выделяется другой изобретатель-комсомолец... Пьеса "Межбурье" Курдина посвящена Красной Армии в ее мирной обстановке... Оба Олимпийских выступления Белорусского театра являются одной из самых ярких страниц всесоюзного смотра". (Волков Н. "Театры Олимпиады. Первый белорусский театр". "Известия", 1930, 14 июля).*

Пасля алімпіяды вядомы маскоўскі крытык і драматург А. Глебаў пісаў: *"... цэнтральны вобраз п'есы – стары вынаходца Мароз – у выкананні артыста Крыловіча ператварыўся ў сапраўдны трыумф... Выканаўца ролі, абапіраючыся на ўказанні рэжысуры і матэрыял аўтара, здолеў знайсці такую гаму фарбаў, якой доўга не даводзілася бачыць на рэвалюцыйнай сцэне Масквы. Стары рабочы, захоплены вынаходніцтвам, паказан так усебакова, у стольніх розных апасродкаваннях, што нельга не бачыць у ім сапраўды жывы вобраз, выхаплены з гушчы рабочых". («Литература и искусство». Москва. 1930, № 2, с. 163).*

Той жа Глебаў пісаў, што *"Гута" не толькі не ніжэй многіх п'ес, напісаных "масцітымі" аўтарамі, але ў многіх адносінах вышэй за іх".* Нездарма ў час алімпіяды "Гуту" называлі "імянінніцай". Беларускі пісьменнік і крытык Юрка Лявонны таксама назваў "Гуту" "лепшай з сучаснага рэпертуару" і пераможцай на спаборніцтве тэатраў у Маскве: *"Як вядома, іменна "Гута" абумовіла буйны поспех БДТ-1 на ўсесаюзнай алімпіядзе мастацтваў". / Ю. Лявонны. "На лініі агню". "Звязда", 1930. 21 снежня/.*

Такія водгукі былі ў 30-я гады.

Сёння Кобеца з яго "Гутай" беларускія навукоўцы выціснулі на задворкі, а ў некаторых энцыклапедычных выданнях зусім выкінулі з нацыянальнай драматургіі, далучыўшы да рускай і ўкраінскай. Але пра гэта пасля.

У студзені 1931 года Масква запрасіла БДТ-1 на Тыдзень беларускай культуры. На гэты раз тэатр павёз "Гуту" Р. Кобеца і "Ярасць" Я. Яноўскага /пра калектывізацыю вёскі/ ў пастаноўцы рэжысёра А. Смяянава. П'есы ставіліся ў тэатры Рэвалюцыі і МХАТ-2. Зноў спектаклі мелі вялікі поспех.

Увесну 1931-га БДТ-1 святкуе сваё 10-годдзе. Вось тады Ў. Крыловічу было нададзена ганаровае званне заслужанага артыста рэспублікі. У 1936 годзе на 3 пленуме ССП СССР, які праходзіў у Менску. Будзе сказана: *"У гэтым творы быў створаны манументальны вобраз старога рабочага кадравіка Мароза, які ўвайшоў у гісторыю беларускай драматургіі як высокамастацкі вобраз станоўчага героя нашай эпохі. Гэты вобраз стаў этапным у сэнсе творчай перабудовы буйнейшага актора Савецкай Беларусі заслужанага дзеяча рэспублікі Ў.М. Крыловіча" /З даклада Модэля/.*

У кастрычніку 1931 беларуская грамадскасць адзначыла 100-разовы паказ "Гуты". Газета "Звязда": *"З вялікім задавальненнем Галоўмастацтва БССР адзначае соты паказ пастаноўкі на беларускай сцэне "Гуты" Р. Кобеца – перамогі калектыву БДТ – 1. ("Звязда", 1931, 7 кастр.).*

Уладзімір Крыловіч у тым жа нумары газеты даў сваю ацэнку п'есе "Гута" і галоўнаму герою – Марозу, ролю якога ён выконваў: *"У соты раз іграючы ролю вынаходца Мароза, я хачу сказаць аб ідэйнай устаноўцы аўтара, рэжысёра і маёй як выканаўцы гэтай ролі ў п'есе "Гута".*

*...Захапіла тая праўда, з якой аўтар – тав. Кобец гаворыць гэтым вобразам, вуснамі гэтага старога пралетара".*

Незвычайны поспех "Гуты" тлумачыцца і тым, што п'еса вырашала тагачасныя жыццёвыя праблемы, адлюстроўвала барацьбу паміж старым і новым. Сам рабочы, Кобец добра ведаў вытворчыя працэсы і таму *"змог даць тэатру высокамастацкую п'есу, зрабіць яе зразумелай для самых шырокіх колаў працоўных... рэалізм, зразумелая і сакавітая мова захапіла гледача"*, - адзначыла прэса.

З кнігі А. А. Семяновіча "Беларуская савецкая драматургія" /1968/: *"Каштоўным у п'есе "Гута" з'яўляецца і тое, што яна пазбаўлена назойлівай сацыялагізацыі, лозунгаўчыны, голай дэкларацыйнасці, персанажы не дэкларуюць свае думкі і пачуцці, а выражаюць іх простай натуральнай мовай..."*

У 1932 праводзіўся конкурс на лепшыя творы, што выходзілі на працягу 15-ці год. Газета ЛІМ паведамляла: *"За драматургічныя творы атрымалі: першую прэмію – т. Р. Кобец; першую прэмію – К. Чорны; другую – т. Курдзін, чацвёртую – І. Гурскі..." \"Вынікі літаратурна-мастацкага конкурсу". ЛІМ, 1932, 15 снежня/.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Слуцкаму паўстанню 1920 года – 85

## (Вандроўка па гістарычных мясцінах)

27 лістапада 2005 года з Менска выправілася вялікая група аматараў гісторыі Беларусі - вучоныя, пісьменнікі, гісторыкі, журналісты, студэнты, сябры клуба "Спадчына" усяго 54 чалавекі па гістарычных месцах раёнах Менскай вобласці, дзе былі арганізаваны і дзейнічаў Слуцкі збройны чын у канцы савецка-польскай вайны 1919-1920 гадоў.

Мэта падарожжа – наведаць гістарычныя месцы, дзе ваявалі палкі 1-й Слуцкай брыгады, актывізаваць беларускія нацыянальныя арганізацыі да ўсведамлення гераічнай дзейнасці Слуцкага збройнага чыну і пераняць традыцыі старэйшага пакалення па вывучэнні славутай гісторыі Беларусі.

*14-15 лістапада 1920 года ў Слуцку адбыўся беларускі з'езд Случчыны, на якім прысутнічала 117 дэлегатаў. Актыўны ўдзел у рабоце з'езду прыняў юрысконсульт Слуцкага павету П. Я. Жаўрыд, які быў прызначаны найвышэйшаю радаю БНР камісарам па Случчыне. Беларускі з'езд Случчыны выбраў Беларускую раду Случчыны ў колькасці 17 чалавек на чале з У.М. Пракулевічам, даверыўшы ёй цывільную ўладу ў Слуцкім павеце і арганізацыю беларускага нацыянальнага войска. Найпершай задачай было фармаванне войска, для чаго была створана вайсковая тройка з членаў Беларускай рады Случчыны на чале з П. Я. Жаўрыдам. У яе ўвайшлі П. Я. Жаўрыд, капітан А. Анцыповіч, паручык Я. Мацэлі.*

*Была сфармавана 1-я Слуцкая брыгада БНР, у якую знаходзілі два палкі – 1-шы Слуцкі полк і 2-гі Грозаўскі полк.*

*14 лістапада 1920 года было падпісана спецыяльнае пагадненне паміж польскім і расійскім бакамі аб вывадзе польскіх войскаў з тэрыторыі Случчыны, які пачаўся з 22 лістапада.*

*24 лістапада польскія войскі пакінулі Слуцк, а 19 лістапада часткі Чырвонай Арміі выйшлі на новую дэмаркацыйную лінію: мястэчка Вызна – мястэчка Леніна – горад Слуцк. Да канца лістапада часткі Чырвонай Арміі выйшлі на лінію ад мястэчка Леніна, на раку Случ, да мястэчка Тураў. У сувязі з тым, што дастатковай абароны Слуцка арганізаваць не паспелі, Беларуская рада Случчыны прыняла рашэнне, а камандаванне 1-й Слуцкай брыгады выдала загад: 24 лістапада пакінуць горад Слуцк і сабрацца ў мястэчку Семежава.*

*Актыўныя баявыя дзеянні Слуцкіх паўстанцаў пачаліся 27 лістапада. У гэты дзень часці 1-й Слуцкай брыгады пачалі налёты на палявыя варты, заставы і месцы дыслакацыі 8-й стралковай дывізіі Чырвонай Арміі на дэмаркацыйнай лініі, якая была вызначана прэлімінарнымі (папярэднімі) ўмовамі Рыжскай мірнай дамовы 1921 гада.*

*Асабліва моцныя атакі вяліся на 60 кіламетровым участку 1-га Слуцкага і 2-га Грозаўскага палкоў: Капыль-Цімкавічы – Вызна. Баі ішлі каля вёсак Садовічы, Быстрыца, Лютавічы. Морач, мястэчак Капыль і Вызна. Камандаванне 16-й Чырвонай Арміі прыняло рашэнне ачысціць нейтральную зону ад слуцкіх паўстанцаў. Але баявыя дзеянні частак 16-й арміі не далі значных вынікаў. Камандаванне 1-й Слуцкай брыгады вывела галоўныя сілы з-пад удару войск Чырвонай Арміі: толькі ў раёне мястэчка Семежава частка Слуцкага палка была разбіта і 7 снежня адкінута за польскую дэмаркацыйную лінію, усяго 30 афіцэраў і 400 салдат. Пасля вяртання войск Чырвонай Арміі на дэмаркацыйную лінію – месца сваёй дыслакацыі – слуцкія паўстанцы зноў пачалі актыўныя напады на асобныя аддзелы Чырвонай Арміі. У ноч на 10 снежня слуцкія аддзелы напалі на вёскі Крывасёлкі і Навасёлкі, 12 снежня на вёску Старынь. З мэтай адціснуць перадавыя часткі Чырвонай Арміі паўстанцы пачалі наступленне на мястэчка Семежава і Вызну. Штаб Слуцкай брыгады 15 снежня пераехаў у вёску Морач. Камандаванне Чырвонай Арміі перакінула на барацьбу з слуцкімі паўстанцамі новыя сілы, якія пачалі актыўна выбіваць паўстанцаў з Вызны, Смолічаў, Семежава. Штаб 1-й Слуцкай брыгады і аддзелы паўстанцаў перадыслакаваліся ў вёску Заастравечча (цяпер Клецкі раён) каля ракі Лань, прынялі рашэнне перайсці раку ў раёне размашчэння 41-га польскага палка. 28 – 31 снежня 1920 года паўстанцы перайшлі на польскі бок, былі раззброены і інтэрнаваны ў лагеры ў раёне мястэчка Сінаўка (цяпер Клецкі раён), потым пераведзены ў лагер у Беласток і ўлагер у Дарапуску. Вызвалены паўстанцы былі ў траўні 1921 года пасля падпісання Рыжскай міранай дамовы. У абставінах, якія склаліся ў канцы 1920 года Слуцкае паўстанне шанцаў на перамогу не мела.*

Першы прыпынак быў зроблены намі ў вёсцы Грозава Капыльскага раёна. Гэта ў мінулым мястэчка, вядомае паводле дакументальных крыніц з першай паловы ХУІ ст. яно ўваходзіла ў Навагардскі павет ВКЛ. Уласнасць князёў Алелькавічаў, Валадковічаў, Радзівілаў, Незабытоўскіх, Вітгенштэйнаў, Гагенлоэ. У Грозаве былі дзве царквы, мужчынскі манастыр. З 1793 года ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка Слуцкага павету. У пачатку ХХ ст. у Грозаве было 1032 жыхары, 177 двароў. У гэтым мястэчку і быў створаны 1-шы Грозаўскі полк БНР (адсюль яго і назва), які ўдзельнічаў у Слуцкім паўстанні 1920 года. Ён быў арганізаваны паводле рашэння 1-га беларускага з'езду Случчыны аб арганізацыі ўзброеных сіл для барацьбы за свабоду і незалежнасць Беларусі ў лістападзе 1920 года "Вайсковай тройкай" з сяброй Беларускай рады Случчыны. Гэты полк фармаваўся ў Слуцку і Семежаве з асабовага складу беларускай міліцыі Слуцка і Слуцкага павету, якая была створана ў пачатку 1920 года з сялян – добраахвотнікаў. Усяго ў склад палка ўваходзіла каля 2 тыс. чалавек.

Грозаўскі полк ўвайшоў у падпарадкаванне 1-й Слуцкай брыгады стральцоў, складаўся з двух батальёнаў і рот.

Тут, у Грозаве, каля крыжа ў памяць палеглых у Слуцкім паўстанні былі ўскладзены кветкі, вянок, запалены свечкі. З кароткай прамовай пра слаўных барацьбітоў выступіў Вячаслаў Сіўчык.

Другі прыпынак быў зроблены ў вёсцы Семежава Капыльскага раёна. Гэта таксама ў мінулым было мястэчка, вядомае з другой паловы ХУ ст., уваходзіла ў Навагардскі павет. Належала князям Слуцкім, Магільніцкім. У час Паўночнай вайны 1700-1721 гадоў у красавіку 1706 года шведы загубілі амаль усё насельніцтва Семежава. З 1793 года ў Расійскай імперыі Менскай губерні: у 1866 годзе ў Семежаве 996 жыхароў, 269 двароў, 2 царквы, яўрэйскі малітоўны дом, капліца, школа, тры крамы, цэнтр народнага мастацкага ткацтва. У 1908 годзе працавалі кравецкі і гарбарны цэхі, 2 млыны. У 1914 годзе ў Семежаве было 2818 жыхароў, 518 двароў. У час Слуцкага паўстання 1920 года ў Семежаве збіраліся вайсковыя часткі Слуцкай брыгады. Тут былі жорсткія баі з часткамі Чырвонай арміі, у снежні Семежава пераходзіла з рук у рукі некалькі разоў. 20 снежня часткі Чырвонай Арміі занялі Семежава.

У Семежаве каля крыжа ўдзельнікі вандроўкі ўсклалі вянок і кветкі да магілы ваяроў, што мужна змагаліся за свабоду і незалежнасць Беларусі: з кароткімі прамовамі выступіі прафесар доктар тэхнічных навук А.А. Саламонаў і прадстаўнік маладога пакалення Артур Фінкевіч.

З Семажава наш шлях ляжаў у гарадскі пасёлак Чырвоная Слабада Салігорскага раёна. У мінулым гэтага было мястэчка Вызна. Яно ўваходзіла ў склад Слуцкага княства ВКЛ, уладанне Алелькавічаў, Радзівілаў. Вітгенштэйнаў, Гогенлоэ. З 1793 года ў складзе Расійскай імперыі. У 1897 годзе ў Вызне 1593 жыхары, пачатковая школа, народная навучальня, царква, капліца, 2 малітоўныя яўрэйскія дамы, бальніца. З студзеня 1923 года мястэчка Вызна перайменавана ў мястэчка Красная (Чырвоная) Слабада. З 27 верасня 1938 года гарадскі пасёлак. Праз мястэчка Вызна ў 1920 годзе праходзіла дэмаркацыйная лінія паміж польскімі войскамі і войскамі Чырвонай Арміі: у снежні 1920 года тут былі зацяжныя баі паміж паўстанцамі Слуцкага збройнага чыну і часткамі 8-й стралковай дывізіі Чырвонай Арміі. 10-20 снежня Вызна некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі варагуючых бакоў.

Тут у гарадскім пасёлку Чырвоная Слабада, адбыўся кароткі імправізаваны сход – мітынг, на якім прысутнічалі і жыхары гарадскога пасёлка. Угарадскім парку ўсе сабраліся каля брацкай магілы змагароў Слуцкага паўстання бо нейкія (можа звышнатуральныя!) сілы ці хто іншы сістэматычна знішчаюць крыж на гэтым месцы, а мясцовыя ўлады на гэта ніяк не рэагуюць. Кветкі, вянок, свечкі былі пакладзены на магілу. З кароткімі прамовамі выступілі гісторык – журналіст А.І. Валахановіч і Віталь Дабраніч.

З Чырвонай Слабады вандроўнікі праз Салігорск накіраваліся ў Слуцк, месца адкуль пачалося паўстанне 1920 года. Са Слуцка шлях ляжаў у горад Старыя Дарогі, у Старадарожскі мастацкі музей фонд Анатоля Белага.

Удзельнікаў ушанавання змагароў Слуцкага збройнага чыну ўсю дарогу – вандроўку суправаджаў праваслаўны святар айцец Леанід (у міры Леанід Аляксандравіч Акаловіч). У Грозаве, Семежаве. Чырвонай Слабадзе на месцах пахавання, каля крыжоў ён прамаўляў розныя малітвы, экціння за памерлых, за слаўных абаронцаў – змагароў Слуцкага збройнага чыну, як часткі БНР, за выбачанне ім і дараванне грахоў іх, каб Гасподзь Бог прыняў душы слуцкіх змагароў у валадарства вечнае славы Яго, малітвы за Беларусь і шматпакутны беларускі народ. Былі асвечаны ўсе крыжы і месцы – гераічныя памяткі ў гонар Слуцкага збройнага чыну. Хор жанчын зладжана спяваў беларускія народныя песні, гімн "Магутны Божа", ім падпявалі маладыя галасы.

У Старадарожскім мастацкім музеі была адкрыта выстава "Героі Слуцкага збройнага чыну". На ёй прадстаўлена каля 50 фатаграфій дзеячоў ды ўдзельнікаў Слуцкага паўстання 1920 года. Каля 10 жывапісных палотнаў (у асноўным карціны беларускага мастака Анатоля Крывенкі), некалькі медальёнаў беларускага скульптара Міколы Несцярэўскага, два праекты памнікаў героям Слуцкага паўстання. Сярод фатаграфій партрэты Андрэя Якубіцкага, Кузьмы Царэшчанкі, Васіля Русака, Уласа Дубіны, Пятра Бабарэкі, Антона Борыка, Сяргея Бусла, Фёдара Данілюка, Уладзімір Пракулевіча, Альжбеты Пракулевіч, Янкі Лагіновіча (Корчыка), Любы Зянковіч, Лявона Рыдлецкага, Юрыя Лістапада, Марыі Стагановіч – Лістапад, Філімона Арцыховіча, Макара Краўцова, Паўла Жаўрыда. Аляксея Каўпака і многіх іншых.

Негледзячы на доўгае на працягу дзесяцігоддзяў замоўчванне выступлення случанаў у 1920 годзе ў гістарычнай навуцы, Слуцкі збройны чын увайшоў у гісторыю Беларусі як гераічны самааддааны вычын беларускага народа ў час савецка-польскай вайны 1920 года.

Слуцкае паўстанне 1920 года – яркая старонка ў справе абароны свабоды і незалежнасці Беларусі.

*Анатоль Валахановіч,*
*гісторык-журналіст, краязнавец.*

# *Будзе здароўе, будуць і новыя песні !*

Жыхары Гародні ўшанавалі Яўгена Канстанцінавіча Петрашэвіча з яго 75-годдзем. Імпрэза адбылася ў гарадскім Доме культуры. Тут сабраліся прыхільнікі таленту беларускага музычнага педагога, кампазітара.



***Яўген Петрашэвіч у свае 75 гадоў.***

Яго жыццё знітавана з культурай. Граць на музычных інструментах навучыўся ў маленстве. Далей была музычная школа, Менская вучэльня па класе баяна і кампазіцыі. І праца ў аркестравай групе народнага ансамбля песні і танца "Нёман", кіраўніцтва хорам Аблсафпрафа, Палацы піянераў і школьнікаў.

Зорным часам стала стварэнне ўзорнага фальклорнага ансамбля "Дударыкі", які выязджаў на гастролі ў Літву, Польшчу, Францыю... Гэты дзіцячы гурт зрабіў вельмі шмат па папулярызацыі роднай мовы.

Я яшчэ Яўген Канстанцінавіч аўтар вакальна-інструментальных і вакальна-харэаграфічных кампазіцый, шматлікіх песень, рамансаў, інструментальнай музыкі. Піша песні і кампазіцыі на ўласныя словы, апрацоўвае народныя песні.

У свае 75 гадоў маэстра пачуваецца бадзёра. Гэта адчулі ўдзельнікі вечарыны, якія пажадалі спадару найперш здароўя. Будзе моц – будуць і новыя творы.

***Антон Лабовіч, Гродня.***

# Запрашэнне

*Саюз пісьменнікаў, Цыганская Грамада, часопіс "Роднае слова" маюць гонар запрасіць Вас і Вашых блізкіх на вечарыну цыганска-беларускай паэзіі і песні "Сны цыганоў", якая адбудзецца **21 снежня г. г., у 18:30 гадз., у Вялікай зале Дома літаратара (Фрунзе, 5).***

***У праграме вечарыны:***

*– прэзентацыя кніг "Сны цыганоў" і "Загадкі балтыйскіх цыган" Вальдэмара Каліціна,*

*– выступленне цыганскіх і беларускіх паэтаў;*

*– спевы музычнага калектыву "Рома́ны Гілоры".*

Даведкі: м.767-04-70, 203-35-17 – спадар Міхась

м. 357-63-34 – спадарыня Надзея.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







# Малавядомы факт з жыцця Максіма Багдановіча

## 9 снежня споўнілася 114 гадоў з дня нараджэння Нацыянальнага паэта Беларусі

**Артыкул Максіма Багдановіча "Краса і сіла" быў першым ягоным творам, надрукаваным у газеце "Украинская жизнь" (Масква, №2, 1914 г.). Публікацыя прысвячалася 100-годдзю з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. Пазней у гэтым выданні пабачылі свет работы "О гуманизме и неосмотрительности" (1914), "Белорусское возрождение" (1915), "На белорусские темы", "В.Самийленко", "Грицько Чупринка" (1916), "Деятельность Минского Белорусского комитета" (1917).**



*Максім Багдановіч сярод работнікаў газеты "Голос" (Яраслаўль, 1916 г.)*

На першы погляд, што ж тут дзіўнага? У гэты час студэнт Яраслаўскага юрыдычнага ліцэя (з 1918 года пераўтвораны ва універсітэт) Максім Багдановіч узяў добры разгон як рэпарцёр, друкаваўся ў выданнях "Наша ніва" (Вільня), "Нижегородский листок", "Национальные проблемы", "Голос", "Сатирикон", "Русский экскурсант", "Жизнь для всех", "Северная газета", "Ежемесячный журнал", "Музыка". У перакладзе яго вершы змяшчаліся ва украінскіх выданнях – "Рада" (Кіеў, 10.05.1909), "Літературно-навуковій вістнік" (чэрвень 1909).

І ўсё ж такі, чаму газета "Украинская жизнь" (1912 - 1917) прыцягнула ўвагу літаратара? Што гэта не выпадкова, сведчаць ранейшыя публікацыі Багдановіча. У 1911-1912 гадах ён перакладае мініяцюры А. Крымскага, вершы М. Чарняўскага, Олеся. Пад тэкстам стаіць надпіс: "С украинскаго перевелъ М. Богданович". Асабліва старанна працаваў над артыкуламі пра Шаўчэнку, пераклаў некалькі яго вершаў – "Н.И. Костомарову", "В неволе", "А.О.Козачковскому". У газеце "Нижегородский листок" быў змешчаны пераклад з Івана Франка – "На реке Вавилонской" (913). Змясціў рэцэнзію на васьмітомнік У.Вінічэнкі (1880 - 1951), у якой высока ацаніў творчасць гэтага майстра слова.

Газетныя публікацыі, прысвечаныя ўкраінскім пісьменнікам, былі напісаны ў апошні тэрмін творчай дзейнасці Максіма Багдановіча і з'яўляліся даследаваннямі твораў украінскіх пісьменнікаў у плане метадалогіі.

Газету "Украинская жизнь" мог даслаць Максіму яго брат Леў, які гэтым часам вучыўся на фізіка - матэматычным факультэце Маскоўскага універсітэта. Такую магчымасць нельга выключаць. Аднак яшчэ ў пачатку красавіка 1913 года ў лісце ў рэдакцыю "Нашай нівы" (Вільня) М. Багдановіч піша:"Вы мне не шліце аўтарскіх экземпляраў, я іх куплю...". Значыць, Максім мае магчымасць набываць патрэбныя выданні ўласным коштам, не чакаючы прысылкі. Не выключана, што ў Яраслаўлі "Украинская жизнь" распаўсюджвалася праз кнігарні ці паступала камусьці са знаёмых Максіма Багдановіча па падпісцы. Урэшце, у рэдакцыі газеты "Голос" (Яраслаўль), з якой Максім навязаў цеснае супрацоўніцтва, працавалі людзі з шырокім кругаглядам (Сцяпан Каныгін, Мікалай Магульскі, Мікалай Агурцоў, Аляксандр Цітоў, Ганна Зэліге, Уладзімір Віктараў)...

Вельмі верагодна, што газета "Украинская жизнь" спадабалася Максіму сваім акрэсленым стаўленнем да нацыянальнай годнасці украінцаў. Выданне давала рэзкі адпор любым спробам расійскіх ці польскіх шавіністаў сцвярджаць, што Украіна – не можа быць самастойнай дзяржавай, а толькі прыдаткам той жа Расіі ці Польшчы. Такая ж самая гаворка ў той час вялася і пра Беларусь. Яшчэ ў 1911 годзе расійскія і польскія рэакцыянеры пачалі чарговы ідэалагічны наступ, каб ачарніць беларускую патрыятычную грамадскасць і ўвесь нацыянальны рух. Супраць беларусаў актыўна выступалі чорнасоценскія выданні "Белорусская жизнь", "Новое время", "Вечерняя газета", "Виленский Вестник", нацыяналістычны польскі "Курьер Литовский". Тады з'явіліся вядомыя публікацыі М. Багдановіча "Хто мы такія", "На беларускія тэмы", "Беларусы" — ("Мы вялікі народ, нас 12 мільёнаў..."). Тут выкрываюцца дзеячы – антыбеларусы, правакатары.

У аўтарах публікацый ён знайшоў аднадумцаў. Выдаўцы газеты, у сваю чаргу, пабачылі ў рэпарцёры з Яраслаўля беларускага патрыёта, які ўяўляе родны край вольнай дзяржавай. Таму ахвотна друкавалі допісы невядомага юнака. Тым больш, што дасланыя матэрыялы вылучаліся глыбінёю даследавання, акрэсленай аўтарскай пазіцыяй. Гэта тычыцца таксама артыкула "О гуманизме неосмотрительности". Багдановіч аспрэчвае меркаванне Г.-Курнатоўскага аб адсутнасці ў беларусаў права называцца нацыяй. Гэтыя думкі былі выкладзены ў дакладзе на пасяджэнні Таварыства славянскай культуры.

Максім Багдановіч, безумоўна, уважліва чытаў кожны даступны яму нумар "Украинской жизни". Часопіс выдаваўся на рускай мове. Гэта дазваляла даходзіць да шырокай чытацкай масы, выказваць пазіцыю маскоўскіх украінцаў па нацыянальных пытаннях. Шмат друкавалася інфармацыі па культурнай тэматыцы. У 1912-1913 гадах было змешчана многа паведамленняў пра Лесю Украінку (Ларыса Квітка-Косач), яе новыя творы. Шырока адгукнулася газета на смерць гэтай паэткі (19.06. 1913). Былі змешчаны тэлеграмы смутку Івана Франка, Панаса Мірнага, Міхаіла Грушэўскага і іншых вядомых украінскіх пісьменнікаў. Максім даведаўся, што Леся Украінка была дачкой літаратаркі Алены Пчылкі, пляменніцай выдатнага вучонага і публіцыста Драгаманава.

Газета абавязкова з'вярталася да надзённых падзей. Паведамлялася пра дзейнасць украінскіх дэпутатаў у аўстрыйскім парламенце. Яны арганізаваны ў тры клубы – нацыянальна-дэмакратычны, радыкальны і букавінскі. Аднак па агульных нацыянальных праблемах выступаюць салідарна. трывогу выклікалі падзеі ў Ташкенце, дзе мясцовы губернатар узняў гвалт з таго, што тутэйшая украінская грамада піша свае абвесткі на украінскай мове. Чытачы маглі даведацца пра жыццё сваіх землякоў у Варшаве і Лондане, Берліне, Парыжы і Празе і нават у Бразіліі, ЗША і Канадзе. Быў змешчаны цікавы матэрыял "Профессор Т.Г. Масарик об украинском вопросе".

І ўсё больш звестак было з самой Украіны. Гаварылася пра яе тэрыторыю, найбольшую ў Еўропе. Змяшчаліся геаграфічныя карты краіны. Часта ўспаміналіся выбітныя асобы, найперш Тарас Шаўчэнка, Іван Франко, Леся Украінка.

Патрыятычныя публікацыі ва украінскай газеце моцна ўплывалі на светапогляд Максіма Багдановіча. Сугучнасць праблем Украіны і Беларусі заклікалі стаць на абарону свайго, роднага. Публіцыстыка паэта набывае рысы наступальнасці, заклiку перайсці ад слоў да справы ў нацыянальным адраджэнні. Ёсць, відаць, перыяды, калі сапраўдны творца вызначае ўласную грамадзянскую пазіцыю ў барацьбе за народнае шчасце. Так сталася з Багдановічам ў пачатку XX-га стагоддзя, з Васілём Быкавым — у канцы XX-га стагоддзя. Гэтыя пісьменнікі па закліку сэрца сталі публіцыстамі, часова аддалі перавагу напісанні не вершаў і аповесцей, а будзённых допісаў на патрэбу дня...

Максім Багдановіч надрукаваў у газеце "Голос" (Яраслаўль, 12.01.1916) рэцэнзію "Украинская жизнь", 1915, № 1-15". Аўтар у гадавым аглядзе выдання выказвае сваю падтрымку "национальной украинской точке зрения", якая выразна праводзілася рэдакцыяй. Найбольшую ацэнку атрымаў публіцыстычны аддзел часопіса, а сярод канкрэтных матэрыялаў – артыкулы Сымона Пятлюры і Міхаіла Грушэўскага. Міхаіл Сяргеевіч вядомы, як гісторык украінскай літаратуры, адзін з лідараў украінскага нацыянальнага руху.

Што да Сымона Пятлюры (1879 - 1926), то на газетныя выступы гэтага аўтара М. Багдановіч звярнуў увагу з першых прачытаных нумароў выдання. У 1915 годзе шырокі водгук выклікалі артыкулы Пятлюры "О польской прессе", "Сказание В.А.Маклакова об украинской интеллигенции". Сымон Васільевіч разам з Аляксандрам Салікоўскім рэдагаваў часопіс. Заснавальнікам і выдаўцом быў Я. А. Шарамеценскі.

Асоба Сымона Пятлюры не патрабуе каментарыяў. Дзесяцігоддзямі імя гэтага чалавека савецкай гістарыяграфіяй трактавалася, як украінскага нацыяналіста, ворага Савецкай улады. Патрыёты Украіны, наадварот, шануюць памяць аднаго з галоўных стваральнікаў Украінскай Народнай Рэспублікі, старшыні яе Дырэкторыі, барацьбіта за яе незалежнасць.

У Маскве Пятлюра апынуўся ў 1907 годзе. Ён граў значную ролю ва украінскім зямляцтве, уваходзіў у кола блізкіх людзей акадэміка Ф. Корша, вядомага абаронцы украінскай культуры. Сымон Васільевіч быў цесна звязаны з нацыяналістычнымі гурткамі "Кабзар" і "Грамада". Працаваў бухгалтарам у страхавым таварыстве "Расія". Пабраўся шлюбам з Вольгай Більской. У 1914 годзе публікаваў заклік "Вайна і украінцы", у якім абверг хлусню пра нібыта аўстрыйскую арыентацыю украінцаў Расіі. На паверхню палітычнага жыцця яго вылучыла Лютаўская рэвалюцыя 1917 года.

У снежні 1915 года Максім Багдановіч быў у Маскве. Гэтыя некалькі дзён амаль не адлюстраваны ў яго біяграфіі. Вядома, што сустракаўся з вучоным Уладзімірам Пічэтам, які сказаў пазней, што паэт надзвычай цікавіўся гісторыяй Беларусі.

Ці была размова з Сымонам Пятлюрам, дакладна невядома. Аднак вельмі верагодна, што яны бачыліся. Не мог Максім абыйсці рэдакцыю газеты, у якой друкаваў свае артыкулы. Магчыма, нават перадаў чарговы матэрыял "На белорусские темы", які неўзабаве (люты 1916 года) быў змешчаны на старонках выдання.

*Антон Лабовіч,*
*Гародня.*

## *Рыхтуецца навагодняе свята для беларускіх дзетак*

**Шаноуныя сябры!**

Запрашаем вас далучыцца да падрыхтоўкі свята для беларускіх дзетак. Патрэбна любая дапамога: ідэі, парады, памяшканне, грошы, рэчы, праца...

На сённяшні дзень у нас (ініцыятараў з ліку бацькоў) ёсць толькі мінімум часу і разуменне, што свята мусіць быць.

А хацелася б:

• Арганізаваць імпрэзу на 2-3 гадзіны, цікавую і зразумелую, як для гадавічкоў, так і для малодшых школьнікаў (дзяліць не выпадае, бо многія маюць некалькі дзяцей розная веку);

• Знайсці памяшканне - дастаткова вялікае, недарагое, са зручным даездам;

• Упрыгожыць яго непаўторна;

• Выбраць сцэнар, які б улічваў поліканфесійнасць грамадства і рознаўзроставасць публікі і пры гэтым далучаў дзяцей да лепшых традыцыяў беларускай культуры;

• Запрасіць гарманіста ці іншага музыку, які мог бы падтрымаць святочны настрой;

• Паінфармаваць усіх, хто мог бы і хацеў узяць удзел як у самой імпрэзе, так і ў яе падрыхтоўцы;

• Адшукаць выканаўцу ролі Святога Мікалая (Дзеда Мароза);

• Прэзентаваць дзеткам хаця б невялічкія падарункі на памяць.

Асноўныя цяжкасці:

хто здольны працаваць, той заняты і мае мала часу;

некаторых апанаваў песімізм і прывёў да страты веры ў магчымасць на належным узроўні арганізаваць такую імпрэзу ва ўмовах акупацыі;

фінансавы крызіс часткі сем'яў з дзеткамі;

адсутнасць наладжаных камунікацыяў у межах беларускай супольнасці ў Менску (кожны змагаецца сам, як можа, да знямогі. Не выкарыстоўваецца патэнцыял сінэргіі).

Выкладзеныя вышэй задачы і перашкоды драбнеюць, калі ўзгадаць пра нашыя перавагі:

Большасць з нас маюць досвед грамадскай дзейнасці і натхненне;

Нас шмат;

Мы працуем для сваіх дзяцей;

За намі будучыня.

Такім чынам - свята будзе! Спадзяюся, што з вашым непасрэдным удзелам.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць праз e-mail: kryscina@tut.by, альбо х. т. 236 18 77 (не пазней за 21.00), маб. т 8029 632 27 43 - Крысціна Вітушка; х. т. 251 90 95, маб. т. 8029 619 49 95 - Марына Вайцяховіч.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Людміла Дзіцэвіч*

# Беларуска-ірландскі дзённік

## *(Працяг "Ірландскага дзённіка")*

*У Ірландыі я пастаянна сустракаюся з цікавымі сем'ямі, ці жыву там, ці прыходжу ў госці. Мне хочацца пазнаёміць маіх чытачоў з некаторымі ірландскімі сем"ямі.*

***Старшыня дабрачыннай арганізацыі Джым О'Кіф (Gim O'Keefe) і яго сям'я.***

Упершыню сустрэлася з гэтым цікавым чалавекам летам 2004 года, калі ірландцы прыехалі ў Станькава рамантаваць школу-інтэрнат. Разважлівы Джым уразіў мяне сваёй мудрасцю. Нетаропкі, але паспявае зрабіць і заўважыць усё. Працуе ў паліцыі, нешта накшталт нашага ДАІ. У пачатку 2005 года Джыма абралі старшынём кілбэгэнскай арганізацыі.

У Кілбэгэне сям'я Джыма жыве ў прыгожым вялікім доме, які збудавалі самі. Ды і цяпер яшчэ дабудоўваюць.Я некалькі дзён правяла ў ім, і мне там вельмі спадабалася. Калі Джым прыехаў у Беларусь і прыйшоў да мяне ў госці, то сказаў, што ўся мая кватэра памерам, як яго кухня. І сапраўды, кухня будавалася для ўтульнай вялікай сямўі. Жонка Мэй (Мау) і дзве дачкі Ліса (Lisa) і Онья (Onia) любяць збірацца на кухні і гутарыць. Бацьку бачаць не вельмі часта, бо той пастаянна на працы, аднак заўважна, як дружна жыве гэтая сям'я.

Джым стаў займацца гуманітарнай дапамогай з 2002 года. Даведаўся пра Беларусь ад свайго папярэдніка - былога старшыні Шэмеса Грэхана. Спачатку сям'я дапамагала ладаваць скрынкі з падарункамі для беларускіх дзяцей. Потым Джым вырашыў наведаць Беларусь. Калі прыехаў у нашу краіну, то падумаў, што гэта Ірландыя трыццаць гадоў назад. На дарогах амаль няма машын, а каля дарог шмат людзей працуе. Пабачыў беларускую беднасць і багацце і зразумеў, што дапамагаць трэба разумна. Лепш даваць не грошы, а сістэму здабывання грошай. Але, вядома, як старшыня, дбае пра збор грошай на патрэбы беларускіх школ-інтэрнатаў. Летам 2005 года Джым прыязджаў з групай ірландцаў шукаць аб'ект для дапамогі. Мы аб'ехалі амаль усё Віцебскую вобласць, якая нават мяне ўразіла сваёй беднасцю. Але мы засталіся задаволеныя беларускімі людзьмі, іх гасціннасцю і сардэчнасцю. Ды і аб'ект знайшлі: разваленую санаторную школу, якая даўно чакае спонсараў.

Жонка Джыма Мэй—напалову шатландка, жыве ў Ірландыі з 16 гадоў. Любіць вандраваць: Канарскія астравы, Бельгія, Канада, Фларыда, Францыя, Іспанія, Швейцарыя, Нідэрланды—невялікі пералік таго, дзе пабывала Мэй з сям'ёй. Яны нават спецыяльны аўтобус купілі для вандровак, у якім можна спаць і гатаваць харч. Для Мэй жыццё—гэта культура, вучэнне. Яна хацела б, каб жанчыны Беларусі змаглі пашырыць як сваю свядомасць, так і свядомасць дзяцей, бо трэба ведаць скарбы свету.

Ліса - старэйшая дачка. Яна захапляецца балетам, кнігамі, ірландскімі танцамі, гімнастыкай, іграе на піяніна, гітары, любіць коней, веласіпедны спорт. Онья таксама вельмі любіць коней. Калі дзяўчынка была маленькай, маці мела пастаянны клопат з яе паводзінамі. То яна рагоча ў касцёле падчас імшы, то скача і радуецца, што імша скончылася. Ды і цяпер Онья імклівая і рухавая, чым і адрозніваецца ад спакойнай Лісы.

Мне вельмі спадабаліся кампутарныя гульні дзяўчат. У доме Джыма шмат дыскаў па рознай тэматыцы: пра выхаванне дзяцей, догляд сабак, пра канікулы і тое, дзе і як мы іх можам правесці, пра кантакты між людзьмі і як мы іх можам усталёўваць,пра тое, як усынавіць дзяцей, якія засталіся без бацькоў, як зрабіць рамонт у кватэры, як стаць супер-зоркай і пра шмат што іншае. Гэтыя гульні—як падрыхтоўка для дарослага жыцця. Дзеці вучацца на гульнях трошкі пажыць дарослым жыццём. Мне вельмі спадабалася гульня пра пакаленні людзей, бо я сама трошкі ў яе пагуляла. У тое, як мы нараджаемся, расцём, што робім дома, як вучымся ў школе, паступаем у каледж, што робім на працы, як выходзім замуж, даглядаем дзяцей, зарабляем грошы, даглядаем старых бацькоў, унукаў, адпачываем, ходзім па крамах, сябруем, святкуем розныя святы: Каляды, Дзень нараджэння. Мне запомнілася адна сітуацыя: адначасова заплакала дзіця і муж паклікаў жонку. Я палічыла, што трэба спачатку падысці да дзіцяці, а муж пачакае. Аказваецца, што трэба было ўзяць дзіця і пайсці з ім да мужа, бо за мяжой вучаць рабіць справы хатнія разам. Мне падумалася, што ў Беларусі такія гульні былі б прыдатныя не толькі для маладых, але і для людзей нашага ўзросту, бо вельмі ж непадрыхтаваныя мы да жыцця і ў школе гэтаму не вучаць. А вось у брытанскіх школах нават прадмет спецыяльны ёсць—*хоўм эканомік* называецца.

У доме Джыма я пасядзела за кампутарам і пачытала навіны ў Інтэрнэце пра нашую Беларусь. Не зусім прыглядная атрымлівалася карціна, але адчувалася не насмешка з таго, што мы ніяк не выб'емся ў людзі, а спачуванне. І ўсё часцей журналісты, палітыкі іншых краін вялі гутарку пра тое, як дапамагчы Беларусі пераадолець адсталасць.

Калі я дачулася, што ірландцы абралі Джыма старшынём арганізацыі Кілбэгэна, то парадавалася за яго. Кожны са старшынь унёс ў справы дабрачыннага фонду нешта свае, грунтоўнае. Цяпер і Джыму выпала нагода нешта змяніць. Мне цікава назіраць за сістэмай працы арганізацый за мяжой. Там вельмі часта мяняюцца кіраўнікі, і гэта добра, бо кожны новы кіраўнік штосьці мяняе, і арга-нізацыя ніколі не спыняецца ў сваім развіцці. Бо нават становучая стабільнасць з часам ператвараецца ў тормаз.



*У доме Джэймса О'Кіф з яго сям'ёй: Онья, Ліса, Мэт - яго жонка.*

***Ларэнца і Брайда Хайнз Lorenzo & Bridy Hynes***

Жывуць разам ужо амаль 44 гады. Маюць 12 дзяцей і 34 унукі.

Дачка Мэры і яе муж Рычард маюць 8 дзяцей;

дачка Лібі і яе муж Джон – 5 дзяцей;

сын Ларэнца і яго жонка Барбара – 7 дзяцей;

дачка Люсьяна і яе муж Пауло – 3 дзяцей;

сын Майкл і яго жонка Марціна – 4 дзяцей;

сын Вінцэнт і яго жонка Шарон – 3 дзяцей;

дачка Валеры і яе муж Кірон – 2 дзяцей;

сын Эдвард і яго жонка Ціна – 2 дзяцей;

дачка Аманда;

сын Трэвар і яго сяброўка Дэма;

сыны Чэры і Дарэл.

Дзеці і ўнукі жывуць у розных краінах, але найбольш у Ірландыі. Каля іх дома некалькі дамоў яго дзяцей, і гэтую вуліцу можна назваць кланам Хайнзаў.

Упершыню сям'я пачула пра дапамогу беларускім дзецям гадоў 10 назад. Тады Біл Кліры з Мулінгара папрасіў Ларэнца аказаць дапамогу дзецям з Беларусі. Тады сям'я мала што ведала пра Беларусь, пра нашу сітуацыю.

З гэтага часу сям'я Хайнзаў стала займацца дабрачыннасцю. А гадоў 6 назад Ларэнца і Брайда сталі браць на канікулы беларускіх дзетак. Першымі ў іх доме жылі дзве дзяўчынкі з Мазыра і Воўкавіч. Потым трое, потым чацвёра, шасцёра, наступнае лета – васьмёра, потым дзесяць дзетак. Так у шчодрай прагрэсіі расла колькасць запрошаных дзяцей. Адна толькі гэтая сям'я можа замяніць цэлую арганізацыю.

Цяпер у сям'і жыве дзевяцігадовы Ігар са Станькаўскай школы-інтэрната. Хлопец вельмі шчаслівы тут, мае шмат падарункаў. Брайда клапатліва даглядае яго, гатуе смачную ежу. Хлопец тут навучыўся катацца на роварах, які падаравалі яму. Ларэнца вучыць яго малітвам і паказвае фільмы пра жыццё Хрыста. Хлопец ву-чыцца мілаэрнасці ў гэтым утульным доме.



*Бранда, Ларэнца, Ігар і Эдвард, сын Ларэнца*

Ларэнца і Брайра не забываюць пра сваіх выхаван-цаў, пасылаюць ім пада-рункі, грошы. Яны вельмі радыя, калі дзеці навучаюц-ца англійскай мове і могуць пагаварыць з імі па тэле-фоне.

Ларэнца і Брайда – шчаслівыя людзі. Яны знайшлі сваё шчасце ў дзецях, і не важна – свае гэта ці беларускія. Яны лічаць, што няма чужых дзяцей, усе мы адна сям'я. Яны хацелі б бачыць усіх людзей шчаслівымі, і могуць у гэтым дапамагчы.

Ларэнца рамантык, аўтар шматлікіх ідэй. Ён любіць марыць, уяўляць, і часта яго мары становяцца рэальнасцю. Гэта ён падказаў мне новую назву маёй кнігі, падаў шмат карысных парад, і я яму вельмі ўдзячная за дапамогу. Таксама вельмі ўдзячная гэтай сям'і за спонсарства ў публікацыі гэтай кнігі, а таксама за знаходжанне другіх спонсараў. У Мулінгары жыве старэйшая дачка Хайнзаў Мэры, яе муж Рычард Дон (Doon) і васьмёра дзяцей – 5 дзяўчат і 3 хлопчыкі: старэйшая Ірына – 22 гады (Ireena), Аманда – 21 (Amanda), Рычард – 20, (Richard), Марыя – 17 (Marie), Луіза – 15 (Louise), Мішэль – 13 (Michelle), Стэфан – 10 (Stephen), Конар – 5 (Conor). Мэры так хуценька напісала мне імёны і ўзрост яе дзяцей, што я здзівілася. Напэўна, нас, хто мае аднаго ці двое дзяцей звычайна ў беларускай сям'і, гэта ўражвае, як можна захацець столькі іх мець, але меркі ў ірландцаў зусім іншыя, таму іншае ў іх і жыццё. І кожны з іх гатовы дапамагаць. Калі я расказала Мэры і Рычарду пра сваю задуму апублікаваць кнігу аб ірландскай дабрачыннасці, яны ўспрынялі гэта з разуменнем і тут жа выдаткавалі грошы на гэтую справу.

Пра Беларусь і беларускіх дзяцей яны сталі ведаць пасля Чарнобыля, а гадоў 10-12 назад ужо пачулі пра дабрачынныя арганізацыі, бачылі скрынкі для збору ахвяраванняў. Успрынялі як належнае, што бацькі Мэры – Ларэнца і Брайда – пачалі дапамагаць беларускім дзецям. Дапамагаць, каму неабходна, -- для іх гэтак незаўважна, як і дыхаць. Гэта проста звычайная жыццёвая з'ява, і не трэба пра гэта доўга помніць ці чакаць нейкіх узнагарод або пахвалы, бо Бог заўжды бачыць усё і вучыць быць некарыслівымі – так лічаць бацькі і дзеці вялікай сям'і Хайнзаў.

***Том Кернан і яго сям'я***

Том і Філ жанатыя ўжо 23 гады. У іх двое дзяцей: сын Шэмес (14 гадоў) і дачка Ніф (19).



*Сям'я Кернанаў і Біл. Філ - жонка Тома, Біл, Том, Кёрнэн, Ніэф (дачка), Шэмес (сын)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



Хлопец больш звязаны з маці, а дачка з бацькам. Шэмес любіць слухаць музыку, глядзець тэлевізар, працаваць з кампутарам, плаваць у басейне. Ён любіць вучыцца, збіраць інфармацыю пра ўсё праз Інтэрнэт. Калі ён вырасце, ён таксама, як і бацька, будзе працаваць менеджэрам у газеце "Вестміт топік". Ніф любіць бавіць час у кампаніі сяброў.

Дзеці працуюць. Філ на канікулах працуе 20 гадзін у тыдзень у прадуктовай краме, 20 гадзін – у газеце "Вестміт топік" сакратаром. А Шэмес адзін раз на тыдзень устае а 4-ай гадзіне раніцы, на ровары дабіраецца да рэдакцыі газеты і потым развозіць газету ў 10 вёсак і 10 крамаў у Мулінгары.

6 гадоў назад у 1999 старшыня дабрачыннай арганізацыі "Дзеці Чарнобыля" ў Мулінгары "Chernobyl Children" Ганна Макгорн (Ann McGurren), патэлефанавала гэтай сям'і і запрасіла на сход. З гэтага дня сям'я Кёрнанаў стала браць удзел у працы гэтай арганізацыі (Цяпер гэта Lake County Chernobyl Group, старшыня – (Patricia Fox) Патрыцыя Фокс). Тады сям'я Кёрнанаў вырашыла ўзяць беларускіх дзяцей на адпачынак летам. У першае лета Вова адпачываў у іх, потым Юля і Ірына, затым перакладчыца, у мінулым годзе дзяўчынка Святлана, а ў гэтым годзе я.

Сям'я Кёрнанаў вельмі дружная. Дзеці любяць быць разам з бацькамі, часта дзеляцца з імі сваімі ўражаннямі. Вялікая любоў і павага адзін да аднаго жыве ў гэтай сям'і. Галоўны у іх бацька, але і Філ добра дапаўняе цёплую атмасферу сям'і сваёй добразычлівасцю і мяккасцю.

Кёрнаны таксама збіраюць грошы для сваёй арганізацыі: у касцёле са скрынкай "Дзеці Чарнобыля", у крамах , на скачках, на ралі. Філ удзельнічала ў мінімарафоне для жанчын, які яны арганізавалі для збору грошай.

Гаспадар сям'і – вялікі патрыёт. Ён і яго дзеці гавораць па-ірландску, любяць сваю краіну, слухаюць сваю музыку. На дзвярах Шэмесавага пакоя вісяць два сцягі – Ірландыі і Вестміта. Я пашкадавала, што наша краіна змяніла нашы дзяржаўныя сімвалы, наш бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня" і сённяшнія дзяржаўныя сімвалы не выклікаюць у моладзі вялікіх патрыятычных пачуццяў А гэта так важна для добрай будучыні краіны. Відаць, гэты патрыятызм і дазволіў Ірландыі ўзняцца над беднасцю, дазволіў кельцкаму тыгру скочыць у багатае шчаслівае жыццё так хутка.

# ШЛЯХ: ТВАРЫ, ДУМКІ, ГАЛАСЫ

С. Квіцень

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### 110. МУЗЫКА

А сёння зноў будуць
Нязвычна гуляць
У час вечаровы
Ўсе ягамосці.
Для свята вялікага
Склікаў палац –
Сыдуцца на Моцарта
Панскія госці.

Ужо толькі іхняя
Будзе віна,
Калі не ацэняць
Высокія спевы.
У краі ўсім паспалітым
Няма
Нідзе болей гэткай
Музычнай капэлы.

Тут гонарам
Таленты сталі свае
Па праўдзе засвоіўшы
Боскія рухі.
Як светлыя кроплі
Трымалі ў сабе
Тутэйшага існага
Спеўныя гукі.

А тыя захлынулі
Чуйную кроў
І сэрца панеслі
У край невядомы.
Стыхію пяшчотную
Іх вечароў
Упітвалі ціхія скроні
Нястомна.

Сачыўся адзін запаветны
Паток.
У голасе ноты –
Прыгожая праца.
І сённяшнім юным
музыкам
Знарок
Працяў крэўны водар
І вусны, і пальцы.

Насіла, як птушка.
Душы
Два крыла
Бліскучага стылю
Ухорная рада.
Заўсёды у ёй
Патаемна жыла
Працяглая песня
Малодшага брата.

Буйнела Еўропа
Ля твару на слых,
Ўлівалася ў вочы
Спакуслівая сцэна.
А музыка зноў
Выклікала уздых
І некуды шляхам
Вяла задуменным.

Ці сэнсу захочацца
У насланні?
О, колькі ні слухаць –
Другога не будзе:
Мацнее паволі
Прыбой светлыні
І, усхваляваныя,
Лётаюць людзі.

### 111. АЎТОГРАФЫ

Напэўна.
Усё ж не ляпніны – другой
Вымагала каменне аздобы.
Зубрынага духу
і цноты лясной
Не ставала
версалям Еўропы.
Стаў лёсам гісторыкаў
Плён незвычайнае працы.
Высокага панства аўтографы
З пылу былога – палацы.

Што ж, славяць стагоддзі ўдзячныя
Так, што не сорамна воку.
Шырокія росчыркі бачныя
Пышна і ясна здалёку.

Там яркіх слядоў пралілося святло
Для годнай размовы.
Само па сабе, для душы хараство
Затлуміла галовы.

Дзівіла раскошы яскравая мроя
Кантрастам палітры.
І нехта хваліўся такой любатою,
А нехта стварае яе сціпла.

Ды разам было ўсё вялікага кошту –
Уражанне госця,
І дыхаць паветрам
ледзь не асцярожна,
І ведаць, адкуль узялося

Ужо на вякі незабыўнае дзіва.
А што яна, часу завеса!
Быў майстар абыдзены
проста шчаслівы,
Як творца няведамы лёсу.

### 112. ПАЛОННІЦА ДРЭВА

Якою ж бясконцай, балючаю дрэмай
Здушыла нямота...
Чакала свабоды палонніца дрэва,
Жывая істота.

Ужо існавала ад думкі імпэту.
Была ў ёй патрэба,
У будучай чыстай пасланніцы свету
Да самага неба.

Пачуццяў адну непагасную кроплю
Меў ідал прыстаннем.
Трымцеў у руках ён,
з'явіўшыся з цёплай
Крыві і дыхання.

З нябыта жаданае выйсце
Знаў майстар абраны.
Гасподзь даланю не спыніў,
як калісьці –
Руку Аўраама.

Ніколі цяпер не задуюць вятры
Дарагую цяпельцу.
Алтарная клець,
ты з абдымкаў рабрын
Вакол чулага сэрца.

Сказаўся разьбяр – бы нятленным
Святлом край пазначыў.
Быў сам – запаветны, сумленны
Ад люду свайго прадстаячы.

Нарэшце, бы новы знайшлі жураўлі
І блакіт нам нябесны.
Павольныя рухі туды даплылі,
Да Бога данеслі.

Маўчала душа невядомая,
Прагнула вечнай парады.
І постаць вяла пранікнёную
Простая ісціна праўды.

Свет лепшы стварала свой мара.
Нарэзаў паэта –
У праведных рысах самотнага твару
Убачыў суседа.

### 113. ПЕРАЗВОН

Ад чаго быў настрой –
Растлумачыць няцяжка пяром.
Загрувасціў пакой
Урачысты шкляны перазвон.
Бы крынічыла недзе высока
Тут песня без слоў –
Рассыпаўся крышталь на падлогу
На сто галасоў.

Каляроваю музыкай
Сталіся сонцавятры-
Размалёвалі гутнікі –
Боскаю ласкай майстры.

Не адвесці вачэй
Ад вясёлак паветра жывых,
А дыхання хапіла б яшчэ
І для дзіў не такіх.

У капрызаў, дарэчы, без меры
Фантазіі ёсць –
Ды якой ні закажа халеры
Сабе ягамосць.

Хмель, вядома, даволі дасціпны
Па-свойму здаўна.
Вось – "куляўкі" патрэбны
па літру –
Каб мігам да дна!

Зноў жа хутка заварыцца
Горлаў дастойных прад.
Як шумлівыя шляхціцы,
Келіхі стукнуць – віват!

Нават хай пачакае віно –
Ўжо не дасі стракача.
Бутлі, "дубэльты", кварты – ажно
Мітусяцца ў вачах.

Фарбаў там жа – на пяць балаганаў.
На цэлы Парыж.
Чарку ўзяўшы, спачатку старанна
Яе разглядзіш.

Перш чым печань сканае,
Адгоніш насупраць туман,
Прачытаеш – якая
Прыладжана лаянка там.

На шкляным гэтым казачным балі –
Хто нас перап'е?
І такое у п'яным запале –
Пад ногі сабе?!.

### 114. СМАРГОНСКАЯ АКАДЭМІЯ

Калі іспыты строгія вялі,
Не замяняў бізун у справе пернікі.
Такімі ўжо спрытнымі былі
Смаргонскія Айчыны акадэмікі.

Не пакідаў цыганісты імпэт
І нашы справы многія дарожныя.
Блукаў цікаўны пеністы сюжэт
Сярод стыхіі тлуму скамарошнага.

А пачынаў яго гушчар заўжды.
І мэту меў сваю драпежны порах.
Лясныя нашы меншыя браты
Хадзілі ў вандроўніках-акцёрах.

Ды доўжыўся далёка іхні след –
Карцела, пэўна, розумам памерыцца.
Такі цягнуўся універсітэт
Ад часу старадаўняй камаедзіцы.

Чым толькі ні дзівіла басата,
Шчыруючы свавольствамі салёнымі.
Пад дудку ад душы мядзведзь скакаў,
Прытоптваючы краты раскалёныя.

Вядомы добра кожнаму сакрэт,
Што зоркі не дарма на небасхіле.
Мы б у Каляды, пэўна, цэлы свет,
Дай толькі волю, ўміг ператварылі.

Калі й не ўсякі продак быў дзівак,
То факт гэты, здаецца, гістарычны:
Абыдзецца без хмелю, мой зямляк,
Вясельны нораў твой акадэмічны.

Было ж калісь – шумела галава
Пад Ляхіяй... і як – без карнавалу?
Дурнела ў ім і гжэчная Літва,
Смаргоніста ўся банкетавала.

### 115. СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ

Выпадала зроку асалода,
Быццам свет разгойдвалі арэлі.
Зоркамі, здавалася, Усходу
Персіярні слынныя блішчэлі.

І яго прымалася павага
Голасам амаль што разамлелым.
Як бы вечнай ласкаю алаха
Панскае агортвалася цела.

Хоць сышла тканіна не з аблокаў,
Зналі людзі – толькі што з-за мора.
Клалася неўтаймавана вока
На мазандаранскія ўзоры.

І ад пэндзля нават мастака
Не было яшчэ такой прынады.
Ткала недзе чулая рук
Золатам самой Шахеразады.

Абышлося без купца-шамана.
Хутка расцвітаў вяльможны строй.
Выведалі, пэўна, у Карана
Маджараты тое хараство.

Дык, бадай, багата ўжо агулам
Набралося і свайго тавару.
Не паедуць госцейкі ж у Тулу
Са сваім пузатым самаварам.

Не ўсякіх рук цярпелі нораў –
Гэта ж вам не свавойскія кашулі.
Як мужыцкім грэбавалі ўзорам.
Так і спрыт жаночы адпіхнулі.

Песцілі найдужых, самых здольных,
Бо чакай ад бабы ўсюды чорта!
Бы зацятых генаў непатольных
Вымагала ўмельская кагорта.



Выдумалі дзіўную прычыну.
А ў кожнай хаце да дурноты
Над палатном схілялася жанчына
Слабая і зграбная пяшчота.

Стала спаконвечным рытуалам –
Прысвячала маці дзетак небу.
І блакітам кветкі з поля хлеба
Вочы любыя дабраслаўляла.

Дык і рук "пярсідскае" сяйво
Родны васілёк не раз наведаў.
Так яно калісьці і было –
Выдумшчык-пясняр не хлусіў свету.

*(Працяг у наступным нумары.)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

# Белпошта ў 2005 годзе







Каму

Куды







Каму

Куды






Каму

Куды






Каму

Куды




*У 2005 годзе УП "Белпошта" выпусціла цэлы шэраг беларускамоўных канвертаў, прысвечаных беларускім дзеячам навукі, культуры і мастацтва да іх круглых датаў. На здымках канверты да 100-годдзя Фларэнція Паўленкава, да 100-годдзя А. А. Бембеля, да 150-годдзя Е. Р. Раманава, да 100-годдзя Міхася Васілька.*

# Спадчына Караткевіча – крыніца агульначалавечага гуманізму



Я мела шчасце быць асабіста знаёмай яшчэ пры канцы 60-х гадоў з Валодзем Караткевічам, бывала ў гасцях у яго, прымала дома. Вядома, будучы доўгія гады студэнткай вучэльні, потым інстытута я не ўмела гатаваць такія смачныя стравы, якімі сустракала гасцей Валя, жонка Валодзі. Памятаю апошні раз пасярод круглага стала ўзвышаўся засмажаны вялікі індык. Гаспадары так рассадзілі гасцей, што самі з келіхамі сталі каля стала. Калі ж пры трэцяй чарцы хтосьці з гасцей узгадаў, "дзе ж гаспадар", то Валя адказала: "Спіць, ён запланаваў ноччу крышку папрацаваць".

Валодзя надзвычай рупліва працаваў і вагома. Першым з пісьменікаў у савецкія часы адважыўся сваім паэтычным уяўленнем ажывіць былое радзімы праз гістарычны жанр, паглыбляючыся ў народную культуру: этнаграфію, фальклор, мову, звычаі, мастацтва, нават прыадчыніў псіхалогію носьбітаў беларускага этнасу.

Слічна, што пададзеныя ім звесткі маюць выключна навуковую каштоўнасць, паколькі грунтуюцца на матэрыялах летапісаў, старадруках, рукапісах архіваў. А як вядома ў тыя 50-70-я гады гістарчны жанр лічыўся не толькі не пад сілу многім пісьменікам, але і не прыярытэтным – партыя магла хутка прышыць ярлык нацыяналізму.

Хто-хто, а я, сучасніца Караткевіча, са свайго асабістага жыцця мела магчымасць упэўніцца, што сабой уяўляў на практыцы тэрмін слова "нацыяналізм" і калі за дыпломныя эскізы, выкананыя гуашшу, пастэлю з назвамі: "Буслы", "Музыкі", "Купаллле", "Мэндлі", "У полі бярозка стаяла" далі мне пад дых так, што цэлыя пяць год выпускнікі тэатральна-мастацкага інстытута баяліся абараняць дыпломы на народную тэму.

А той, хто з вас не палянуецца ды пагартае 10-ы том БелСЭ, то з ілюстрацыі "Мастацкія тканіны" пабачыць адзін з тых дыпломных эскізаў ды падзівіцца навешанаму на мяне "нацыяналізму".

А што заставалася рабіць ды гаварыць Караткевічу, стварыўшаму сапраўдныя нацыянальныя творы: "Дзікае паляванне караля Стаха". "Чорны замак Альшанскі"ды іншыя. Што не кажы, а папярэднія гады дужа шмат зламалі лёсаў творчых людзей, а Валодзя пісаў, і як пазначыў асабістай рукой у прадмове "Дарога якую прайшоў" – "працаваў не для сябе, а для маёй роднай краіны". Але ж розуму, нават таленту не дастаткова, каб пісьменнік мог напісаць высокамастацкія творы з багатым нацыянальным каларытам, у якіх сцвярджалася думка аб неперамножнасці, усемагутнасці добра, раскрываючы тым самым крыніцу агульначалавечага гуманізму. Таямніцу творчасці пісьменніка трэба шукаць глыбей у геннай сіле духу Караткевіча, які ўяўляў сабой веліч характару беларускага менталітэту. Да таго ж тут варта да слова прыгадаць, што сэнс слова "розум" не аналагічны сэнсу слова "мудрасць", як тое вынікае са зместу святой кнігі Бібліі, дзе значыцца, што мудрасць даецца чалавеку бясплатна ад Бога, па сіле веры ў Яго. Але ж гады нараджэння і жыцця Валодзі прыпадалі на часы ганебнай ідэалогіі атэізму. А паколькі асабіста я не ведала ці верыў Валодзя ў Бога. То па яго творах шукала адказу на турбаваўшае мяне пытанне. І знайшла, праз словы галоўнага героя рамана "Чорны замак Альшанскі". Вось яны: "Я зрабіў спраўна, і па сваёй ахвоце, сваю катаргу на зямлі. Я зрабіў нават больш таго, што мог. І не дзеля сябе, а дзеля гэтага акіяну, народу майго. І цяпер я прыйшоў да цябе не кленчыць аб узнагародзе. Дай тое, што мне належыць па працы маёй, калі ты ёсць. А калі няма, я не буду шукаць узнагароды за справы свае. Нідзе". Слава Богу, Які стварыў неба, зямлю і нас людзей, што узгадаваў на беларускай зямлі высокаінтэлектуальнага пісьменніка, якому ні тлум атэізму, ні ярлык нацыяналізму не здолелі канчаткова скалечыць душу.

Калі сёння ў нашай дзяржаве свабода веравызнання, то тэба спадзяваецца – з бязбожжам атэізму мы пакончылі канчаткова. А як быць з нацыяналізмам? Чаму мы тры славянскія народы безупынку абвінавачваем адзін другога ў нацыяналізме? На маю думку ў гэтай праблеме маглі б дапамагчы канчаткова разабрацца журналісты, калі б данеслі да ведама палітыкаў, грамадскасці адказ хоць на два наступныя пытанні. 1) Ці абвінавачваюць адзін другога ў нацыяналізме шэсць славянскіх народаў Паўднёвай Еўропы? 2) Ці "мараць" пяць славянскіх народаў Заходняй Еўропы пакінуць свае мовы, то тады якой думаюць аддаць прыярытэт зрабіўшы яе дзяржаўнай? Пакуль жа мы толькі бачым, што ў нашай краіне пад нагамі творчых людзей блытаюцца слаба адукаваныя палітыкі, іх абвінавачванне беларускіх пісьменнікаў, мастакоў у нацыяналізме – нішто іншае, як знявага культуры трох славянскіх народаў Усходняй Еўропы, а валтузня з мовай стварае ўражанне, што людзі на гэтай часцы свету даўно згубілі Боскі дарунак.

*Марыя Жабінская, г. Менск.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 12. 12. 2005 г. у 11.30. Замова № 2136.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1270 руб., 3 мес.- 3810 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013